Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

IV СЭСІЯ ЦЭНТРАЛЬНАГА ВЫКАНАЎЧАГА КАМІТЭТУ Б. С. С. Р. VII СКЛІКАНЬНЯ

# БЮЛЕТЭНЬ

## № 9

23 студзеня 1927 г.



МЕНСК



## Да ведама прамоўцаў.

Усе прамоўцы, якія заўважаць недакладнасьці ў сваіх прамовах, зьмешчаных у бюлетэнях Сэсіі, павінны зараз-жа пасьля атрыманьня бюлетэню заявіць аб гэтым ў рэдакцыйную камісію. Гэтая заява і папраўкі павінны быць зроблены на працягу трох гадзін па выдачы бюлетэню. Пасьля гэтага тэрміну прамовы будуць аддавацца для друку у стэнаграфічнай справаздачы Сэсіі, і ніякія заявы аб зьменах і папраўках прымацца ня будуць.

Менск, 1-я дзярж. друкарня зак. № 1152—300. Галоўлітбел. № 23799.

## 9-ае пасяджэньне Чацьвертай Сэсіі ЦВК 7-га склікаsucceeded.

*23-га студзеня 1927 году.*

Пасяджэньне пачалося а 10 гадзіне.

*Старшыня—тав. Чарвякоў А. Г.*

Старшыня: Чарговае пасяджэньне IV-й Сэсіі ЦВК агалашаю адчыненым. У парадку дню інформацыйны даклад аб дэмографічнай перапісі. Слова для дакладу мае Начальнік Цэнтральнага Статыстычнага Ўпраўленьня тав. Шкубар.

Тав. Шкубар: Таварышы, калі на павестцы дню Сэсіі ЦВК было пастаўлена пытаньне аб усесаюзнай дэмографічнай перапісі, дык думалася, што Сэсія зьбярэцца перад перапісьсю і, значыцца, скажа сваё высока-аўторытэтнае слова і тым палегчыць правядзеньне гэтай вялікай статыстычнай опэрацыі. Цяпер мой даклад павінен быць зьведзены толькі да кароткай інформацыі аб рабоце, якая была зроблена.

Павінен сказаць, што статыстычны вучот і органы, якія яго праводзілі, у сыстэме Савецкага, гаспадарчага і культурнага будаўніцтва займае з кожным днём усё больш і больш віднае месца. Яго роля і яго месца канчаткова яшчэ ня вызначаны. На жаль, у даны момант я не магу паставіць перад Сэсіяй гэта пытаньне ва ўсім яго разьмеры, бо з гэтага боку пытаньне не канчаткова прапрацавана і не зацьверджана вышэйшымі органамі саюзнай улады ў адносінах ЦСУ Саюзу; у залежнасьці ад структуры і тых заданьняў, якія будуць у бліжэйшыя дні зьдзейсьнены ў Саюзных органах, прыдзецца нам будаваць свой статыстычны апарат. З другога боку, пабудаваньне статыстычнага апарату БССР і ўстанаўленьня пляну і програмы яго дзейнасьці ня можа прайсьці няўзгодненым як з цэнтральнымі ўстановамі, так і акруговымі выканаўчымі камітэтамі.

З прычыны гэтага, таварышы, дазвольце зараз гэтае пытаньне ня ставіць; пытаньне аб дзяржаўнай статыстыцы ў цэлым, у поўным яго разьмеры будзе пастаўлена пасьля адпаведнай распрацоўкі на бліжэйшай Сэсіі. Цяпер дазвольце перайсьці непасрэдна да майго інформацыйнага паведамленьня.

З кожным днём узрастаючае і ўзмацняючаеся плянавае соцыялістычнае будаўніцтва, як у галіне гаспадарчай, так і ў галіне культурнай, патрабуе дакладных лічбаў і ўсялякіх статыстычных матар'ялаў.

У першую чаргу, улада СССР, у згодзе з Саюзнымі рэспублікамі, пастанавіла ўтварыць перапісь насельніцтва ў Саюзным маштабе. Вынікі апошняй перапісі 20-га году ні ў якай ступені не маглі ў далейшым задаволіць тых патрэб, якія ўзьніклі пры пабудаваньні тых або іншых пляноў, і гэта высунула на першае месца неабходнасьць перапісі насельніцтва. Пасьля 1920 году, пасьля дэмобілізацыі арміі, пасьля надзвычайна бурнага росту нашай прамысловасьці, пасьля галодных гадоў Паваложжа, зразумела, ад тых даных, якія атрымалі ад перапісі 20-га году, засталося, па існасьці, пустое месца. Бо ў 20-м годзе ўвесь край бурліў, кіпеў; рабочыя масы, з аднаго боку, былі на франтах, як

замежным, так і ўнутраным, з другога боку—нашыя гарады апусьцелі з прычыны надзвычайна цяжкіх продуктовых умоў і г. д. Значыцца, у першую чаргу трэба было даведацца, колькі насельніцтва маецца ў даны час, як яно разьмяркоўваецца па паасобных рэспубліках, па паасобных вобласьцях, акругах і г. д.

Але, зразумела, ня досыць ведаць толькі лічбавы склад насельніцтва. Улада Беларусі, да рэчы сказаць, абгаворвала плян усеагульнага абучэньня; але за адсутнасьцю сталых даных, якімі характарызуецца насяленьне па народнасьцях, па ўзросту, па полу, па мове і г. д., вымушана была дакладную і падрабязную работу аб гэтым пытаньні адсунуць да ўтварэньня перапісі насельніцтва. Такое самае становішча мы маем у кожнай галіне як гаспадарчага, так і культурнага будаўніцтва; усюды мы сутыкаемся з недахопам адпаведных матар'ялаў, што да пэўнай ступені спыняе як работу Беларускай Савецкай улады, так і ўлады Саюзных рэспублік.

Я ня буду спыняцца падрабязна на памерах перапісі. Відавочна, кожны з вас папаў на гэты маленькі шэры ліст паперы, які называюць «лічным лістком», і, вядома, кожны ведае, якія пытаньні былі ў гэтым лістку. А таму я іх толькі коратка пералічу. Апрача месцазнаходжаньня (адрасу), там адзначаецца народнасьць, пол, узрост, мова насельніцтва, якое апрашваецца, заняткі, социяльнае становішча ў занятках, галіна працы, у якой працуе даная асоба, крыніца сродкаў для існаваньня, пытаньні безрабоціцы, фізычныя недахопы насельніцтва і г. д.

Найбольш труднымі пытаньнямі, з якімі можна было-б стыкнуцца пры перапісі ў Беларусі, гэта—пытаньні, якія тычыліся народнасьці і мовы. ЦСУ, па дырэктывах, як улады, так і саюзнага ЦСУ, ставіла гэтыя пытаньні на разгляд самога-ж насельніцтва, і перапішчыкі рэгістравалі адказы насельніцтва на гэтыя пытаньні так, як яны даваліся. У агуле-ж перапісь у гэтых адносінах прайшла добра. Ёсьць асобныя, літаральна асобныя выпадкі непаразуменьняў, якія пакуль-што яшчэ высьвятляюцца. Цяпер гэта ў пэрыодзе прагляду, і невядома, наколькі гэтыя скаргі акажуцца грунтоўнымі. Такая вялізная опэрацыя, як перапісь насельніцтва Рэспублікі на працягу параўнальна кароткага тэрміну, зразумела, ня можа лічыцца работай толькі аднэй установы. Улічаючы гэта, як беларуская ўлада, так і партыйныя і грамадзкія ўстановы ўсямерна пайшлі насустрач ЦСУ, які праводзіў гэту буйную, я-б сказаў, і складаную работу. Наскольні яна вялікая па разьмерах, можна судзіць таму, што бяз Гомельшчыны да работы было прыцягнута 5.600 чалавек. Усю гэтую армію трэба было ў кароткі тэрмін падрыхтаваць, заставіць зразумець усе тыя пытаньні, якія пастаўлены ў формулярах, так, як 1 чалавек, каб ня было розьніцы і г. д. Шырокая кампанія, паднятая акругамі ў глухіх вёсках па поваду перапісі, якая растлумачвала насельніцтву ролю і значэньне перапісі, бязумоўна, склала грунт для пасьпяховага правядзеньня гэтай работы.

Судзячы па дакладах кіраўнікоў, як акруговых, так і раённых, можна сказаць, што матар'ялы перапісу вышэй сярэдняга, вышэй звычайнага. Праўда, канчатковая, об'ектыўная ацэнка матар'ялу будзе атрымана толькі пасьля перапрацоўкі самых матар'ялаў. Але трэба думаць, што об'ектыўная ацэнка будзе адпавядаць суб'ектыўнай, бо кіраўнікамі былі працаўнікі з вялікай практыкай, правёўшыя не адну статыстычную опэрацыю.

Два словы адносна распрацоўкі матар'ялаў перапісі. Распрацоўка зьяўляецца опэрацыяй Усесаюзнага значэньня і, як гэткая, павінна праводзіцца ў строга цэнтралізаваным парадку, па пэўнаму каляндарнаму

пляну і праграмах. У першую чаргу будуць распрацоўвацца даныя па разьмеркаваньню насельніцтва па нацыянальнасьцях (у межах кожнага раёну), па роднай мове, таксама і ў комбінацыі народнасьці з роднай мовай. Далей намячаюцца пытаньні пісьменнасьці насельніцтва ў зьвязку з народнасьцю, затым пісьменнасьць па ўзростах, зноў-ткі ў сувязі з народнасьцю, і ў канчатковым выніку разьмеркаваньне насельніцтва па занятках у сувязі з народнасьцю. Такім чынам, мы, напрыклад, па Беларусі, здолеем вызначыць удзельную вагу кожнай народнасьці па паасобных галінах працы. Гэтыя пытаньні ўжо патрэбны былі ўраду, але статыстычныя органы адказу не маглі даць. Далей ідзе цэлы шэраг вельмі складаных распрацовак па занятках, соцыяльнаму становішчу, па беспрацоўю, крыніцах сродкаў існаваньня і г. д.

Наогул праца, таварышы, разьмеркавана на паўтара-два гады, але гэта ня значыць, што да канца гэтага тэрміну ня будзе адпаведных публікацый. Адпаведныя публікацыі будуць значна раней і іменна ў тым парадку, як я зараз казаў. Прычым, я думаю, што не пазьней канца лютага будуць выпушчаны папярэднія вынікі лічбавай колькасьці насельніцтва і разьмеркаваньня гаспадарак у сельскіх мясцовасьцях па народнасьці гаспадароў, а наступная праца не раней, чым у чэрвені-ліпені.

Стаўлю, як пытаньне, перад Сэсіяй: можа было-б мэтазгодна сказаць у пастанове аб неабходнасьці прысьпешыць распрацоўку матар'ялаў, забясьпечыўшы, зразумела, адпаведнымі сродкамі. Я ня лічу, што гэта павінна пайсьці па мясцоваму бюджэту або за кошт бюджэту Беларускай рэспублікі. Як на працу саюзнага значэньня, адпаведныя асыгнаваньні павінны быць дадзены па бюджэту Саюза, бо на самой справе даныя перапісу павінны набываць гістарычны характар.

Тут тав. Адамайціс дазволіў сабе сказаць, што ЦСУ працуе толькі для гісторыі. Не, таварышы, ЦСУ працуе ня толькі для гісторыі, яна стараецца ўсімі мерамі задаволіць патрэбнасьці і сёньнешняга дня. Калі не заўсёды гэта ўдаецца, дык не па віне ЦСУ, а іменна таму, што тыя організацыі і прадпрыемствы, ад якіх атрымоўваюцца адпаведныя весткі, заўсёды дастаўляюць іх з спазьненьнем. Як напрыклад, зазначу, што зараз 17 прадпрыемстваў прыцягнуты да судовай адказнасьці за несваечасовае прадстаўленьне вестак. Асабліва-ж тав. Адамайцісу ня трэба было гаварыць аб гістарычным характары матар'ялаў ЦСУ. Якраз Наркамгандлю забясьпечваецца намі заўсёды і ў выстарчаючай меры, бо сваіх даных ён ня мае і жыве выключна данымі ЦСУ. Пры гэтым я павінен сказаць, што ЦСУ лічыць патрэбным працаваць і для гісторыі. Калі тав. Адамайціс лічыць, што патрэбны даныя толькі для сёньнешняга дня, дык ён памыляецца. Мы павінны вывучаць зьявішчы таксама і ў дынамічным разрэзе, і калі-б ня было даных аб дынаміцы, тады-б ён ня мог гаварыць аб тых зьменах, тэмпе і характары іх, якія наглядаюцца ва ўсіх галінах жыцьця. Таму я лічу патрэбным працаваць і «для гісторыі».

Што датычыцца вынікаў перапісі, дык яны, праўда, надзвычайна скромныя і апублікованы ў брошуры пад назвай «Папярэднія вынікі», Я ня буду спыняцца на лічбах, я хачу толькі зазначыць, што калі параўнаць насельніцтва 1926 г. з насельніцтвам 1897 г., г. зн. 30 год таму назад, дык будзем мець рост як сельскага, так і гарадзкога насельніцтва на 35 проц., г. зн. прырост насельніцтва складае 1,2 проц. у год. Між тым, калі зварачаемся да натуральнага руху насельніцтва, дык бачым, што лічбы натуральнага прыросту хістаюцца ад 1,8 да 2 проц. у год. Адгэтуль бачым, што мінімум трэцяя частка насельніцтва з Беларусі зьнікае. Магчыма, таварышы, што ў даным выпадку мы маем водгукі вайны, але, галоўным чынам, тут грае ролю той сталы адліў з Беларусі,

які наглядаецца ў працягу ўсяго гэтага пэрыоду. Мы наглядаем перасяленьне ў Сібір і інш. месцы, мы наглядаем адыход насельніцтва ў горад на заработкі і г. д.

З гэтай прычыны, ня гледзячы на досыць высокі процант натуральнага прыросту, насельніцтва ўсё-ж павялічваецца ў значна меншай меры, чым гэтага можна было-б чакаць. Перапіс 1926 г., праўда, яшчэ па ня зусім праверанымых даных, выявіла, што па Магілеўскай і Калінінскай акругах насельніцтва амаль на 80-70 тысяч менш, чым вылічала ЦСУ. Гэта тлумачыцца не няправільнасьцю нашых вылічэньняў, а тлумачыцца тым, што пры перапісі рэгістравалася насельніцтва на 17 верасьня, г. зн. толькі налічнае насельніцтва, між тым, у гэтых акругах заўважваецца вельмі значны адыход на Донбас і інш. месцы. Ёсьць весткі, што некаторыя раёны ў працягу апошняга паўгода выдалі да 5.000 пашпартоў на ад'езд. Значыцца, у зьвязку з разьвіцьцём прамысловасьці ў СССР, як і ў даваенны час, наглядаецца значны адыход насельніцтва на заработкі, якое часам зварочваецца на летнія і веснавыя працы.

Яшчэ два словы адносна росту нашых гарадоў. Гарадзкое насельніцтва таксама вырасла ў параўнаньні з 1897 годам усяго на 35,2 проц. Калі ўзяць насельніцтва гарадоў у 1926 г. і параўняць з колькасьцю насельніцтва, якое было пры перапісі 1923 г., дык будзем мець наступны малюнак: раённыя гарады, г. зн. быўшыя павятовыя гарады, за 4 гады далі прырост на 1 проц., г. зн. менш звычайнага натуральнага росту. Па мястэчках рост вызначаецца ў 5 проц. А што датычыцца акруговых гарадоў, дык іх рост вызначаецца ў 16 проц., а наогул па ўсіх гарадох, разам узятых,—12 проц. Гэта сьведчыць ня толькі аб натуральным прыросьце, але і мэханічным прыросьце, які зьяўляецца ў зьвязку з адраджэньнем у гарадох прамысловасьці і гандлю: значныя кадры сялян з вёсак асядаюць у гарадох. Вось, уласна, усё, на чым я хацеў спыніцца.

Старшыня: Таму, што даклад мае, галоўным чынам, інформацыйны характар, дык лічу, што спрэчак распачынаць ня трэба. (Галасы з месц: спрэчак распачынаць ня трэба). Ну, дык тады спрэчак мы распачынаць ня будзем. Зараз я зачытаю проект рэзолюцыі, які я намеціў па дакладу тав. Шкубэра.

Ці маюцца іншыя пропозыцыі?

Хто за тое, каб гэтыя рэзолюцыі прыняць у васнову?—Большасьць.

Ці маюцца папраўкі або дапаўненьні?—Ці згодны вы, т. Шкубэр, з гэтымі рэзолюцыямі?

Тав. Шкубэр: Згодзен у поўнай меры.

Старшыня: У такім выпадку пераходзім да наступнага пытаньня. У парадку дня стаіць даклад аб водна-мэліорацыйным кодэксе. Слова для дакладу мае Народны Камісар Земляробства т. Прышчэпаў.

Тав. Прышчэпаў: Таварышы, галоўныя асновы водна-мэліорацыйнага кодэксу ўжо разглядаліся на мінулай Сэсіі ЦВК, і галоўныя прынцыпы гэтага кодэксу былі зацьверджаны. І вось, на аснове гэтых прынцыпаў, НКЗемам дэталёва распрацованы проект Водна-Мэліорацыйнага Кодэксу, які прыняты Саўнаркомам і ўносіцца на зацьверджаньне Сэсіі ЦВК.

Па якіх прычынах урад БССР зьвяртае сур'ёзную ўвагу на разьвіцьцё мэліорацыйных мерапрыемстваў у межах БССР?

Галоўнымі прычынамі зьяўляюцца наступныя:

Ва ўмовах БССР мы маем значныя плошчы нявыгоднай зямлі, на якой датуль, пакуль мы не правядзем мэліорацыі, нельга будзе арганізаваць інтэнсыўнае сельскае гаспадаркі. А без інтэнсыфікацыі сельскай гаспадаркі ва ўмовах БССР нельга разьвязаць аграрнага пытаньня.

Дзеля гэтага, таварышы, перад тым, як арганізаваць інтэнсыўную гаспадарку, трэба спачатку прывесьці ў парадак нашы землі. Калі вы паглядзіце на карту БССР, дык убачыце сінія раёны. Гэта значыць, што ў БССР надзвычайна многа балот, якія не даюць жаднае карысьці ні селяніну, ні дзяржаве, а наадварот—прыносяць вялікую страту, бо грунтовая вада разбурае сельскую гаспадарку, і ўраджаі ў нас з кожным годам вельмі слаба падніmаюцца. Калі да гэтых балот далучыць пяскі, якіх у нас у БССР многа, дык вы ўбачыце, што ў нас зямля нявыгодная, і дзеля гэтага інтэнсыфікацыю сельскае гаспадаркі трэба пачаць з мэліорацыі зямлі.

Толькі правёўшы мэліорацыю, можна арганізаваць інтэнсыўную сельскую гаспадарку. Гэта—адна прычына, якая прымушае ўрад, прымушае наша сялянства зьвярнуць асаблівую ўвагу на разьвіцьцё мэліорацыйных мерапрыемстваў.

Другая прычына—гэта недахват кормаў у БССР. Вы, таварышы, добра ведаеце, што ў нас кожную зіму сяляне перажываюць так званы харчовы крызіс. Часам гэты харчовы крызіс выклікае згубу скаціны. Сялянства корміць яе ня толькі сьвежай саломай, але нават саломай са страхі. Для таго, каб высьветліць гэтае вострае пытаньне для БССР, я падам некалькі лічбаў.

Па Калінінскай акрузе ў застойны пэрыод на карову прыпадае 16,5 пудоў сена ў год, у іншых акругах, напрыклад, у Магілеўскай—толькі 22,7 пуда, у Аршанскай—25,7 і г. д.

Разумеецца, што пры такой норме нельга ні ў Калініншчыне, ні ў Магілеўшчыне, ні ў іншых акругах арганізаваць малочныя гаспадаркі, бо на саломе і халоднай вадзе карова малака ня дасьць. Пры гэтым з кожным годам, у сувязі з пашырэньнем ліку сялянскіх двароў і пашырэньнем насельніцтва БССР, харчовы крызіс усё павялічваецца. І нам, як ураду, так і асабліва сялянам, трэба сур'ёзна падумаць, як ва ўмовах БССР разьвязаць аграрнае пытаньне. Калі мы прызнаем, што галоўнай галінай у сельскай гаспадарцы зьяўляецца жывёлаводзтва, асабліва малочнае і рагатага быдла, дык трэба падумаць над тым, што пакуль мы ня створым адпаведных умоў, нельга будзе ў нас пашыраць і разьвіваць сельскую гаспадарку, бо жывёлаводзтва складае галоўную таварную частку сялянскай гаспадаркі.

Якім чынам ва ўмовах БССР можна разьвязаць харчовае пытаньне? Наркамзем лічыць, што яго можна вырашыць наступным чынам. Першае,—мы павінны зьвярнуць асаблівую ўвагу на разьвіцьцё мэліорацыі. Шырокую тэрыторыю нашых балот, якія знаходзяцца дагэтуль у дзікім стане, у бліжэйшыя гады трэба будзе прывесьці ў культурны стан, правесьці асушку і пашырыць гэтым самым харчовыя рэсурсы ў БССР. Разьвязаць харчовае пытаньне можна шляхам мэліорацыі. Утварыць матар'яльную базу для разьвіцьця нашага жывёлаводзтва і, асабліва, малочнага быдла—гэта першае мерапрыемства.

Другое мерапрыемства, на якое мы зьвяртаем увагу нашых сялян, гэта пашырэньне палявога травасеяньня: выкі, канюшыны, сэрадэлі і кораньплодаў. Такім чынам, праводзячы, з аднаго боку, мэліорацыю, а з другога—палявое травасеяньне, мы будзем павялічваць харчовыя рэсурсы колькасна і паляпшаць іх якасна.

Вось такім чынам мы думаем разьвязаць харчовы крызіс ва ўмовах БССР.

І тутака ў першую чаргу трэба нашым сялянам зьвярнуць увагу на гэтыя дзікія балоты, якія дагэтуль даюць толькі асаку, у той час, калі на гэтых балотах можна было-б дасягнуць высокай інтэнсыўнай культуры.

Такім чынам, неабходнасьць разьвіцьця мэліорацыйных мерапрыемстваў выклікаецца харчовым крызісам, які нашы сяляне пераживаюць з году ў год.

Трэцяя прычына, якая прымушае нас зьвярнуць увагу на мэліорацыю, гэта—дэфіцыт зямельнага балянсу. Ня гледзячы на тое, што мы ўсе землі б. абшарнікаў перадалі сялянству, дагэтуль мы маем яшчэ востры зямельны крызіс; мы маем прыблізна 30—40 проц. сялян, якія маюць норму зямлі ніжэй мінімуму, і разумеецца, што на 2-3 дзесяцінах нельга весьці гаспадарку. А між тым, наша практыка мэліорацыі паказала, што балоты зьяўляюцца найлепшай зямлёй, калі на іх правесьці мэліорацыю і, такім чынам, палепшыць яе. Пашыраючы мэліорацыю, мы пашырым наогул зямельную плошчу, перадаючы яе ў працоўнае карыстаньне безьзямельных і малазямельных сялян, і вырашаючы, такім чынам, аграрнае пытаньне.

Адначасна з гэтым мэліорацыя будзе мець вялікае значэньне і для выкарыстаньня нашага аграрнага беспрацоўя. Вы ведаеце, што дагэтуль у нас, у беларускай вёсцы, ёсьць прыблізна 30-40 проц. сялян, якія ня маюць работы. Гэта значыць, што калі ўзяць гэтых сялян з вёскі, дык тыя 60-70 проц., што застануцца, справяцца з тэй гаспадаркай, якая вядзецца цяпер. Такім чынам, гэтыя беспрацоўныя зьяўляюцца вялікім цяжарам для нашай сельскай гаспадаркі. Гэтую лішнюю рабочую сілу, якую мы маем на вёсцы, можна будзе выкарыстаць пры нашай мэліорацыі: тутака селянін прыстасуе свае сілы, і яго праца праз пэўны час будзе мець прыбытак.

Вось, таварышы, галоўныя прычыны, якія прымушаюць як сялян, гэтак і ўрад зьвярнуць асабліва сур'ёзную ўвагу на разьвіцьцё і пашырэньне ў нас мэліорацыйных мерапрыемстваў. Як бачыце, ад гэтых мерапрыемстваў залежыць разьвязаньне аграрнага пытаньня ў БССР. Гэта—аснова, без якой мы ня можам ісьці далей уперад у разьвіцьці нашае сельскае гаспадаркі.

Я зараз прывяду характарыстыку галоўных элемэнтаў, на якія будзе распаўсюджваць сваю дзейнасьць наш водна-мэліорацыйны кодэкс. Сюды, разумеецца, належаць нашы балоты і наогул наша водная гаспадарка. Колькі мы маем у БССР балот? З агульнае плошчы зямлі ў БССР, разам з далучанай Гомельшчынай, 12.340.000 гэктараў, з іх пад балотамі (уключаючы і Гомельшчыну) знаходзяцца 2.082.400 гэктараў, што складае 16,8 проц. усяе агульнае плошчы БССР. Як бачыце, плошча вельмі вялікая. Па процанту балот мы стаім ніжэй толькі ў адносінах паўночных губэрань. Калі-б мы правялі асушку і культуртэхніку на гэтых балотах, зрабілі-б іх такімі, каб там можна было весьці культурную гаспадарку, дык мы маглі-б надзяліць зямлёй, калі лічыць на адзін двор 10 гэкт. (а гэта—значная норма) 208.240 двароў. Вось які надзел маглі-б атрымаць сяляне, калі-б мы правялі асушку і культуртэхніку на гэтых балотах. Разумеецца, што кожнай гаспадарцы мы дзесяць гэкт. не дамо, бо гэта норма—вельмі вялікая. Калі лічыць у сярэднім 8 гэкт. на двор, дык мы маглі-б надзяліць каля 300.000 двароў за кошт гэтых балот. Адны гэтыя лічбы гавораць аб тым, якое вялікае значэньне будзе мець і ўжо мае мэліорацыя пры разьвязаньні аграрнага пытаньня ў БССР.

У сучасны момант мы сваімі мерапрыемствамі ўжо абхапілі, прыблізна, 85-90 тысяч гэкт. па асушцы. Гэта, калі лічыць нашы мерапрыемствы, якія праходзяць за кошт дзяржаўных сродкаў, а таксама мерапрыемствы мэліорацыйных таварыстваў, якіх ужо ў гэтым годзе налічаецца 617, і мерапрыемствы, якія праведзены ў далучанай Гомельшчыне. Як бачыце, мы ў гэтым годзе ўжо ахаплі значную плошчу.

Але пакуль што нашы сяляне цікавяцца больш асушкай балот. Між іншым, таварышы, вы павінны добра ведаць, што аднэй асушкай асаблівай карысьці нашаму сялянству мы не дамо, бо часам здараецца, што адна асушка бяз іншых мерапрыемстваў дае менш прыбытку, чымся чыстая вада, так што на аднэй асушцы ні ў якім выпадку нельга спыніцца. Наш селянін павінен добра ведаць, што асушка—гэта толькі пачатак мэліорацыі і што пасьля гэтага трэба правесьці яшчэ культуртэхніку,—гэта значыць, заворваньне, дрэнаж, засеў і г. д. Толькі пасьля гэтага можна атрымаць буйны гаспадарчы эфэкт на мэліораванай плошчы.

Да гэтага часу мы асушылі значную плошчу, але пакуль што яшчэ ня бачым культурных дасягненьняў, бо культуртэхнікай нашы сяляне пакуль што ня цікавяцца, і дзеля таго гэтыя мерапрыемствы павінны атрымаць вялікае месца ў мэліорацыйных працах. Гэтыя працы праводзяцца, галоўным чынам, на сродкі і за кошт самога сялянства. Дзяржава праводзіць мэліорацыйныя мэрапрыемствы, галоўным чынам, па асушцы: мы організуем вадапрыемнікі, рэгуляваньне рэк, утварэньне буйных каналаў, якія прымаюць ваду з балот; а далейшыя мерапрыемствы павінны быць ускладзены на мэліорацыйныя таварыствы, на сродкі самых сялян.

Гэту задачу, на жаль, дагэтуль нашы сяляне яшчэ не зразумелі, і дзеля гэтага трэба тутака будзе правесьці адпаведную агітацыю нашых культурна-тэхнічных мерапрыемстваў.

Што мы маем па воднай гаспадарцы? Водная гаспадарка ахапляе прыблізна агульную плошчу ў 116.000 гэкт., рэчкі і каналы з іх маюць даўжыню 33.500 клм.

Павінен вам сказаць, таварышы, што водная гаспадарка да гэтага часу знаходзілася ў больш разбураным становішчы, чым якая іншая галіна гаспадаркі. Да гэтага часу воднай гаспадаркай мала цікавіліся, ня было ўведзена яснага прававога прынцыпу, на аснове якога воднай гаспадаркай матлі-б карыстацца сяляне і дзяржаўныя ўстановы. Да гэтага часу наша водная гаспадарка, памойму, знаходзілася ў бяспрытульным становішчы. Само сабою зразумела, што водная гаспадарка мае вялікае значэньне ў Беларусі. Ад рэгуляваньне воднага рэжыму залежыць магчымасьць асушкі балот Беларусі—гэта першае.
дык вада будзе забалочваць і перашкаджаць, а часьцей, рабіць немагчымым асушку прылягаючых плошчаў. Ад рэгуляваньня воднага рэжыму залежыць магчымасьць асушкі балот Беларусі—гэта першае.

Падругое, водная гаспадарка з боку транспорту ў Беларусі мае вялікае значэньне. У БССР—8.500 клм. судаходных і сплаўных рэчак і каналаў. Калі добра організаваць водны транспорт, можна абслужыць сельскую гаспадарку многіх раёнаў у адносінах збыту сельска-гаспадарчых продуктаў. Ёсьць у нас такія раёны, якія зусім адрэзаны ад рынку, і пабудаваць там дарогі будзе каштаваць значна даражэй, чым організаваць водны транспорт. Да гэтага часу на гэта не зьвярталі ўвагі, а водны транспорт павінен граць вялікую ролю ў разьвіцьці сельскай гаспадаркі, таму і трэба будзе ў бліжэйшы час організаваць яго.

Апроч таго, водная гаспадарка будзе мець вялікае значэньне і для разьвіцьця нашае прамысловасьці, асабліва саматужнай. Да гэтага часу гэтай справай мы ня цікавіліся, і эксплёатацыя воднай энэргіі праводзілася як папала, прыносячы часам вялікую шкоду сялянству. Таму мы лічым, што ў нашых законадаўчых актах і пры ажыцьцяўленьні паасобных мерапрыемстваў трэба зьвярнуць сур'ёзную ўвагу на правільную організацыю нашай воднай гаспадаркі.

Вось, прыблізна, кароткая характарыстыка таго, па якіх прычынах наш урад зьвярнуў увагу на разьвіцьцё мэліорацыйных мерапрыемстваў, на організацыю нашай воднай гаспадаркі. Цяпер я, таварышы, перайду да самага проэкту кодэксу.

Тут перад складаньнем водна-мэліорацыйнага кодэксу былі шырокія спрэчкі наконт таго, ці выдаваць два кодэксы—водны і мэліорацыйны, ці выдаваць адзін—водна-мэліорацыйны. Наркамзем спачатку заняў позыцыю, што трэба выдаць адзін кодэкс—водна-мэліорацыйны—па наступных прычынах: у нас, таварышы, усё-ткі вялікае значэньне маюць нашы мэліорацыйныя мерапрыемствы, і наша галоўнейшая задача—уцягнуць у сельска-гаспадарчы зварот 2.000.000 гэкт. дзікіх зямель. Калі мы будзем мець магчымасьць уцягнуць гэтыя землі? Тады, калі будзем правільна рэгуляваць водны рэжым, калі правядзем рэгуляваньне нашых рэчак, каналаў і г. д. Такім чынам, усе апошнія галіны воднае гаспадаркі займаюць другое месца ў адносінах да мэліорацыйных мерапрыемстваў, і яны падлягаюць у асноўным інтарэсам нашай мэліорацыі—гэта першая прычына.

Другая прычына—у нас, у Беларусі, усе гэтыя рэчкі і каналы зьяўляюцца вадапрыёмнікамі з нашых балот, і калі мы ў законадаўчым акце ня будзем гаварыць аб рэчках і каналах і воднай гаспадарцы, тады ня будзем мець магчымасьці рэгуляваць гэтыя рэчкі і каналы. Ад іх будзе залежаць разьвіцьцё і правядзеньне мэліорацыйных мерапрыемстваў.

Я вам павінен, таварышы, сказаць, што калі мы прыступім да правядзеньня генэральнага пляну мэліорацыі Беларусі, а ў бліжэйшыя гады мы да гэтага прыступім, нам трэба будзе рэгуляваць наогул усе рэчкі і каналы Беларусі, закранаць усе рэчкі. Да гэтага часу мы бралі паасобныя рэчкі і вазёры і рэгулявалі, але калі пачнем правядзеньне генэральнага пляну мэліорацыі, дык нам трэба будзе закрануць і Прыпяць, і ББярэзіну, і Сож, і Дзьвіну і інш. рэчкі. Наркамзем ня будзе магчымасьці праводзіць генэральны плян, калі ня будзе мець права рэгуляваньня ўсіх рэчак. Такім чынам, мерапрыемствы па воднай гаспадарцы, як бачыце, амаль супадаюць, у ўмовах БССР, з асноўнымі мэліорацыйнымі мерапрыемствамі. Таму, таварышы, мы лічым, што неабходна выдаць водна-мэліорацыйны кодэкс, і толькі тады будзе грунт для разьвіцьця мэліорацыйных мерапрыемстваў.

Пераходзячы да першай часткі кодэксу, я павінен спыніцца на галоўнейшых прынцыпах гэтай часткі. Папершае, мы ўводзім прынцып, што ўсе воды ў Беларусі зьяўляюцца нацыяналізаванымі і складаюць дзяржаўную ўласнасьць. Гэта—галоўнейшы прынцып. Вы ведаеце, што раней, калі існавала прыватная ўласнасьць на ваду, вада была ў прыватных руках, у абшарнікаў. Цяпер мы гэты прынцып адкінулі. Ясна, што раней нельга было праводзіць шырокіх мэліорацыйных работ, бо вадапрыёмнікі знаходзіліся ў руках абшарнікаў, якія маглі забараняць праводзіць якія-б то ні было мерапрыемствы, і ўсякая мэліорацыя тады зрывалася. Мы прынцып прыватнай уласнасьці на воды, само сабой зразумела, у Беларускай Савецкай Социялістычнай Рэспубліцы адкідваем і абвяшчаем як зямлю, так і ваду нацыяналізаванай, дзяржаўнай уласнасьцю і організоўваем адзіную водную гаспадарку. Разам з тым, праводзячы гэты прынцып, мы ўстанаўляем наступныя катэгорыі вод: воды сельска-гаспадарчага значэньня (да іх належаць воды працоўнага карыстаньня дзяржаўнай маемасьці), воды гарадзкія (воды, якія знаходзяцца ў межах гарадоў) і воды спэцыяльнага назначэньня—гэта, скажам, судаходныя каналы, курортныя воды і інш.

Такім чынам, воды, як бачыце, разьмяркоўваюцца па катэгорыях і знаходзяцца ў карыстаньні сялян, дзяржавы, Народнага Камісарыяту Шляхоў Зносін, ВСНГ і г. д. Асобныя супярэчаньні ў гэтай справе мы сустракаем з боку ВСНГ і Нар. Кам. Шлях. Зносін. Нар. Кам. Шлях. Зносін хацеў-бы, каб суднаходныя і сплаўныя рэкі цалком знаходзіліся пад яго загадам, напрыклад, да ВСНГ ня мелі-б жадных адносін. Я лічу, што гэта—ведамственная пастаноўка пытаньня. На гэта згадзіцца ніяк нельга, бо з увядзеньнем кодэксу, інтарэсы Нар. Кам. Шлях. Зносін у кожным выпадку ня будуць закрануты. Усе гэтыя суднаходныя рэчкі і каналы будуць перадавацца, паводле пастановы нашага ўраду, у іх карыстаньне. НКШЗ будзе праводзіць усе неабходныя мерапрыемствы, організоўваць транспорт і г. д. Таму ўсе супярэчаньні па гэтым пытаньні, прымаючы пад увагу зазначаны прынцып падзелу вод па катэгорыях, само сабой зразумела, адпадаюць. Агульнае кіраўніцтва водамі ўскладаецца на Наркамзем. Каб выкарыстаць усю водную гаспадарку ў інтарэсах усяе нашае народнае гаспадаркі, трэба сконцэнтраваць кіраўніцтва гэтымі водамі ў аднэй установе. Мы лічым, што ў нас галоўнае значэньне маюць воды сельска-гаспадарчага значэньня, воды, якія выкарыстоўваюцца з мэтай сельска-гаспадарчай мэліорацыі і г. д. Большая частка ўсіх катэгорый вод будзе знаходзіцца пад кіраўніцтвам Наркамзему, і таму агульнае кіраўніцтва воднай гаспадаркай трэба будзе сконцэнтраваць пры Наркамземе. Але, пры гэтым, пры Наркамземе будзе існаваць спэцыяльны орган, якому мы даем назву «водна-мэліорацыйнага камітэту». Такі камітэт павінен існаваць і пры акруговых земорганах. Камітэт гэты будзе складацца з прадстаўнікоў Наркамзему, ВСНГ, Нар. Кам. Шлях. Зносін, Нар. Кам. Аховы Здароўя і г. д. Прычым гэты камітэт будзе складацца з тэхнічных і навуковых працаўнікоў, якія будуць вырашаць пытаньне, як лепш выкарыстаць тую ці іншую рэчку: панізіць узровень вод з мэтай асушкі або, скажам, шлюзаваць для транспорту, або пабудаваць на ёй якую-небудзь гідраўстаноўку. Навукова-тэхнічны камітэт павінен будзе вырашаць пытаньні, зьвязаныя з рэжымам вод, вырашаць усе пытаньні, зьвязаныя з тэхнічна-навуковым бокам справы. Такім чынам, организуючы такую ўстанову, мы лічым, што інтарэсы ўсіх ведамстваў, усіх устаноў будуць задаволены, а таму жадных пярэчаньняў быць ня можа.

Цяпер далей, воды сельска-гаспадарчага значэньня, як я сказаў, будуць разьбівацца на воды працоўнага значэньня і воды дзяржаўнага значэньня. Мы думаем усе маленькі вадаёмы, рэчкі і вазёры перадаць у карыстаньне сялян. Да гэтага часу гэта пытаньне прынцыпова вырашана ня было. Да гэтага часу ніхто ня ведаў, на падставе чаго сяляне карыстаюцца водамі. Зараз мы ўносім яснасьць у гэта пытаньне і лічым магчымым усе вадаёмы перадаць паасобным вёскам або некалькім вёскам. Разам з тым, закон прадугледжвае, што сялянскія суполкі могуць організоўваць вадаёмы для сваіх гаспадарчых патрэб. Гэта значыць, што сялянам дазваляецца карыстацца водамі, якія будуць мець дзяржаўнае значэньне, у тым ліку і водамі, якія будуць знаходзіцца пад загадам Нар. Кам. Шлях. Зносін. Вось якія прынцыпы мы па сваім закону прымаем. Утварэньне дробных вадаёмаў сяляне могуць праводзіць самі бяз жадных тэхнічных проектаў за выключэньнем артэзыянскіх студняў. Артэзыянскія студні нельга організаваць бяз тэхнічнага проекту, бо тады могуць быць затоплены цэлыя плошчы зямлі. Да гэтага пытаньня трэба падыходзіць асьцярожна. Вось, прыблізна, тыя правы, якія даюцца сялянам, і якія прадугледжаны нашым законам. Дазваляючы сялянам карыстацца ўсімі водамі, у інтарэсах

сельскай гаспадаркі, мы, разам з тым, уносім у закон адзін пункт, які, можа быць, будзе спрэчным пунктам. Гэта так званы пункт аб берагавой паласе, ці, як яго раней называлі, «вяровачніцаю». У гэтай частцы закону сяляне павінны быць асабліва зацікаўлены. Мы ў сваім законе ўводзім такі прынцып, што каля параходных і сплаўных рэчак і каналаў, а таксама нашых рыбных вадазбораў павінна ўтварацца берагавая паласа. Гэтая берагавая паласа будзе складаць адно цэлае з вадазборам і будзе знаходзіцца пад кіраўніцтвам тых устаноў, пад загадам якіх знаходзяцца гэтыя вадазборы. Возьмем такую раку, як Дняпро. Там будзе выдзелена з абедзьвюх бакоў ракі берагавая паласа, якая будзе знаходзіцца пад непасрэдным загадам Наркамшляхоў. Тут стаіць пытаньне, якой шырыні павінна быць гэта берагавая паласа. Згодна проекту нашага кодэксу, гэта берагавая паласа павінна быць роўна 20 мэтрам ці, прыблізна, 10 сажням; на больш дробных рэчках—да 10 мэтраў і на каналах—да 1-го мэтра. Прычым, гэтая паласа, як я ўжо сказаў, ня будзе ўходзіць у склад працоўных земляў. У артыкуле 39 Кодэксу гаворыцца:

„Скарыстаньне прыбярэжнымі землякарыстальнікамі береговой паласы агульнага карыстаньня для пасеву, касьбы і выгану жывёлы дазваляецца бясплатна органамі Народнага Камісарыяту Земляробства толькі ў тым выпадку, калі гэта не перашкаджае трыманьню ў належным парадку цячэньня вады і берагов Для скарыстаньня берагавой паласы агульнага карыстаньня суднаходных рэк патрабуецца таксама дазвол органаў Народнага Камісарыяту Шляхоў Зносін“.

Такім чынам, як бачыце, таварышы, карыстаньне гэтай берагавой паласою можа дазваляцца толькі Наркамземам і Наркамшляхоў. Тут гэтае пытаньне спрэчнае. Праўда, мы будзем бясплатна дазваляць карыстацца, але, памойму, будзе многа выпадкаў, калі селяніна будуць зганяць з гэтай паласы і ня будуць дазваляць ёю карыстацца. З гэтай прычыны, трэба ў гэтым законе прадугледзіць, каб гэтыя суднаходныя рэчкі і каналы не разбураць. Але трэба на Сэсіі ЦВК пагаварыць аб тым, якой шырыні складаць берагавую паласу на суднаходных рэчках і каналах і ў якім выпадку і для якіх патрэб можна дазволіць працоўнае карыстаньне на берагавой паласе.

Ёсьць другая думка: каб берагавую паласу пакінуць прыблізна на параходных рэчках да 10 мэтраў, а на другіх да 5, і дробных да 1-го мэтру. Але тут прыдзецца пагаварыць па гэтаму пытаньню.

Цяпер далей: у гэтай частцы закону прадугледжваюцца і тыя страты, якія, магчыма, селянін будзе мець, калі нашы дзяржаўныя ўстановы будуць карыстацца вадазборамі. Будуць іншы раз такія выпадкі, калі падаткавыплатнікам ці прадстаўніком НКШЗ трэба будзе выкарыстоўваць ня толькі берагавую паласу тых зямель, якія знаходзяцца ў працоўным карыстаньні сялян. Закон прадугледжвае, што калі пры гэтым карыстаньні будуць нанесены страты сялянам ці шкода, дык яны павінны папаўняцца.

Пры агульным карыстаньні вадазборамі праводзіцца прынцып бясплатнага карыстаньня толькі лесасплаву. За лесасплаў будзе брацца асобная плата па таксе, якая будзе распрацоўвацца Наркамземам і ўстанаўляцца ЭКНарадаю.

Гаворачы аб лесасплаве, неабходна сказаць аб тым, што НКШЗ ставіць пытаньне, каб усе сплаўныя рэчкі і каналы перадаць у яго карыстаньне. Наркамзем лічыць, што немагчыма зрабіць гэтага, бо сплаўныя рэчкі і каналы зьяўляюцца найгалоўнымі вадапрыймальнікамі ў мэліорацыйнай сыстэме, і калі перадамо сплаўныя рэчкі НКШЗ, мы, такім чынам, галоўную чыстку мэліорацыйнай сыстэмы возьмем ад Наркам-

зему і перадамо наркамату, які да мэліорацыі ніякіх адносін ня мае.

З гэтай прычыны Саўнарком прыняў такую пастанову, што ўсе сплаўныя рэчкі павінны знаходзіцца пад загадам Наркамзему; яны фактычна да гэтага часу да яго і належалі. Мы організоўваем новыя каналы і рэчкі і будзем організоўваць у сувязі з пашырэньнем нашых мэліорацыйных мерапрыемстваў.

Такім чынам, гэтае пытаньне было спрэчным. Я яго дакладваю Сэсіі, каб Сэсія аб ім пагаварыла, але, мы лічым, што ўся сплаўная сетка, якая зьяўляецца самай галоўнай у мэліорацыйнай сыстэме, павінна знаходзіцца пад загадам Наркамзему. Далей, таварышы, ідуць пытаньні аб праве карыстаньня вадою, галоўным чынам, нашымі дзяржаўнымі ўстановамі, бо я сказаў, што суднаходныя рэчкі НКШЗ будуць знаходзіцца пад яго непасрэдным ведамам. Але адначасна з гэтым на рэчках і вадазборах трэба будзе выкарыстоўваць энэргію вады, і тут будуць зацікаўлены УСНГ і нашы мясцовыя органы.

Які парадак мы тут уносім нашым законадаўствам? Організацыя вадападпорных пабудоў і наогул выкарыстаньне воднай энэргіі павінна рабіцца з дазволу Наркамзему. Прычым, парадак будзе прыблізна такі: у тую ці іншую ўстанову тая ці іншая група сялян будзе падаваць заявы аб тым, што ім трэба пабудаваць млын. Пасьля гэтай заявы Наркамзем будзе пасылаць спэцыялістых, якія зробяць абсьледваньне на месцы, складуць тэхнічны проект, і калі гэты проект будзе складзены, будзе відаць, ці можна там організаваць тую ці іншую пабудобу. Пасьля гэтага будзе выдавацца дазвол на пабудову. Калі-ж, напрыклад, у выніку той ці іншай пабудовы адбудзецца патоп ці затапленьне сялянскай зямлі, дык закон прадугледжвае, каб страты, якія будуць мець месца, былі выплачаны тым, хто організоўваў гэтыя мерапрыемствы. Калі будзе пры гэтым якая-небудзь спрэчка, гэта справа будзе разглядацца ў судовым парадку. Калі Наркамзем прызнае, што організацыя такога мерапрыемства зробіць шкоду, ён можа забараніць гэтае мерапрыемства. Апрача таго, трэба праверыць усе тыя млыны, якія існуюць. Законам прадугледжваецца далей, што калі будзе організавана тое ці іншае мерапрыемства, дык яно павінна трымаць ваду на пэўным узроўні, які будзе ўстанаўляцца тэхнічна проэктам і г. д. Тут, бязумоўна, праводзіцца прынцып такі: карыстацца сілаю вады дазваляецца, але карыстацца ёю ў такім парадку, каб не рабіць шкоды сялянам, не рабіць шкоды сельскай гаспадарцы.

Я ня буду спыняцца на тых момантах, якія гавораць аб тым, каб ваду трымаць у чыстаце. Вы гэта прачытаеце ў кодэксе, я хачу спыніцца яшчэ на рыбнай гаспадарцы.

У гэтым законе праводзіцца прынцып, што рыбная гаспадарка зьяўляецца дзяржаўнай уласнасьцю, але гэтая рыбная гаспадарка будзе падзяляцца на дзяржаўную рыбную маемасьць, мясцовую рыбную маемасьць і рыбную гаспадарку, якая будзе знаходзіцца ў працоўным карыстаньні сялян; да апошніх будуць далучаны копанкі і сажалкавыя рыбныя гаспадаркі, пабудаваныя сялянствам. Прычым, калі селянін організоўваў працоўную рыбную гаспадарку, а потым куды-небудзь перасяляўся, дык яму ўсе тыя выдаткі, якія ён аддаў пры організацыі рыбнай гаспадаркі, павінен заплаціць той, хто пасьля яго будзе карыстацца гэтаю рыбнаю гаспадаркаю. Вы на дыяграмах бачылі, што мы ўжо пачынаем праводзіць так званую штучную рыбагадоўлю. Прывозім ікру з Чудзкага і іншых азёраў, маем копанкі для гадоўлі малькоў. У першыя гады мы, магчыма, будзем бясплатна даваць гэтых малькоў сялянам, каб яны організавалі ў сябе рыбную гаспадарку, з тэй пры-

чыны, што ад організацыі копанак і іх гаспадарчага выкарыстаньня атрымоўваецца вялікі прыбытак, а вы добра ведаеце, што амаль у кожнага селяніна ёсьць тыя ці іншыя сажалкі, копанкі г. д., у якіх, калі іх прывесьці ў парадак, можна організаваць рыбную гаспадарку і, такім чынам, атрымаць, па нашаму разрахунку, да 300 р. у год прыбытку з дзесяціны. Такім чынам, організацыя гэтых копанак будзе мець вялікае значэньне ў сялянскай гаспадарцы.

Цяпер перайду да другой часткі—мэліорацыйнай часткі кодэксу. Як я ўжо паказаў, галоўныя задачы гэтай часткі кодэксу заключаюцца ў тым, каб устанавіць такія прававыя ўмовы, якія ў бліжэйшы час уцягнуць, па магчымасьці, усе гэтыя няўдобныя землі ў сельска-гаспадарчы зварот. Гэта—галоўны прынцып. Адначасна з гэтым мы тутака даем тлумачэньне, што такія няўдобныя, малакарысныя землі, якія хоць і даюць прыбытак, селяніну, але невялікі, вымагаюць для ўзвышэньня прыбытковасьці карэнных палепшаньняў. Бросавыя землі—гэта такія землі, якія без карэнных палепшаньняў ня могуць даць ніякага прыбытку ні дзяржаве ні селяніну. Вось гэтыя землі трэба ўцягнуць у сельска-гаспадарчы зварот, каб яны прыносілі і селяніну і дзяржаве прыбытак.

З гэтаю мэтаю мы ў першай частцы кодэксу, ў асноўных палажэньнях вызначаем, што Наркамзем мае права рабіць мэліорацыйныя мерапрыемствы на землях, у чым-бы карыстаньні ня былі гэтыя землі, бяз ведама ўстановы ці асобнага селяніна, у карыстаньні якога знаходзяцца яны, за выключэньнем НКШЗ, дзе вымагаецца згоднасьць з ім. А як вы ведаеце, такога права раней ня было, бо раней існавала прыватная ўласнасьць на зямлю. І з гэтай прычыны, тады былі амаль заўсёды такія выпадкі, што калі трэба правесьці канал, які павінен нямінуча прайсьці цераз чужую гаспадарку, дык уласьнік апошняй мог забараніць вам на сваёй зямлі капаць каналы, і, такім чынам, уся мэліорацыя зрываецца. Так было пры старой уладзе. Само сабою разумеецца, што мы ня можам такое права пакінуць цяпер, калі зямля ў нас нацыяналізавана. Паколькі зямля зьяўляецца дзяржаўнаю ўласнасьцю, паколькі мы лічым, што Народны Камісарыят Земляробства, цераз які наша ўлада праводзіць аграрную політыку, павінен мець права праводзіць мэліорацыю на любых землях, і правядзеньнем такіх мерапрыемстваў хутчэй уцягнуць усе гэтыя землі ў сельска-гаспадарчы зварот.

Затым мы ў асноўнай частцы, у галоўных пачатках, уводзім такі прынцып, што калі частка сялян згаджаецца праводзіць мэліорацыйныя мерапрыемствы, а другая частка не згаджаецца, і гэтая першая частка пачала праводзіць і правяла мэліорацыю, трэба даць таксама магчымасьць тым, хто адмаўляўся, прыняць удзел у мэліорацыі і атрымаць некаторую карысьць ад зробленых работ. Калі такія сяляне будуць адмаўляцца прымаць удзел у выдатках, мы іх павінны прымусіць; а калі яны адмовяцца, дык цераз зямельныя камісіі пазбавіць іх карыстаньня тэй зямлёй, на якой яны адмаўляюцца праводзіць мэліорацыю. Прынцып гэты вельмі важны. У нас у практыцы нашае работы часта здараюцца такія выпадкі, што таварыства правяло мэліорацыйныя мерапрыемствы, абсушыла балота, а тыя сяляне, якія адмовіліся там працаваць, атрымоўваюць частку асушанай плошчы. У выніку гэтых работ карысьць маюць тыя, што ня бралі ўдзелу ў працы, і, урэшце, яны выскаляюцца, што другія палепшылі ім зямлю. З гэтае прычыны мы лічым, што ў закон трэба ўвесьці такі прынцып, што калі селянін будзе адмаўляцца ад удзелу ў мэліорацыйных мерапрыемствах, дык мы павінны яго прымусіць і, у крайнім выпадку, адабраць ад яго тую

зямлю, на якой будзе праведзена мэліорацыя, і перадаць таму, хто згодзіцца гэту мэліорацыю зрабіць.

Далей, у законе прадугледжваецца такі прынцып. Наша мэліорацыйная палітыка і практыка, якую мы праводзілі ў ранейшыя гады, грунтавалася на тым прынцыпе, што, прыблізна, 50 проц. усіх мэліорацыйных мерапрыемстваў праводзіць дзяржава і 50 проц. павінна рабіць сялянства. На кошт дзяржавы аддаты такія мерапрыемствы: рэгуляваньне рэк (мы гэта робім згодна нашым законам), організацыя вялікіх каналаў, навукова-дасьледчая работа па мэліорацыі, організацыя насельнікаў, утрыманьне тэхнічнага пэрсоналу, які будзе кіраваць усімі воднымі і мэліорацыйнымі мерапрыемствамі. Вось, прыблізна, галоўныя мерапрыемствы, якія будуць праводзіцца за кошт дзяржавы. Усе-ж другія мерапрыемствы, як, напрыклад, дробныя каналы і дрэнаж, раскарчоўка, узворваньне балот, засеў,—усё гэта павінна ісьці за кошт сялянства, прычым дзяржава тут будзе ўжо толькі даваць пазыку, асабліва бядняцкім гаспадаркам.

Далей, таварышы, мы даем тлумачэньне, што такое мэліорацыя. Я аб гэтым падрабязна гаварыць ня буду. Вы гэта прачытаеце ў кодэксе. Мэліорацыі мы даем самае шырокае азначэньне: сюды ўваходзіць рэгуляваньне рэк, пракладка каналаў, тут і дрэнаж, выкарчоўка і заворка, тут уваходзіць аблясеньне пяскоў, уборка каменьня і г. д.,—карацей, усё, што зьвязана з грунтоўным паляпшэньнем дзікіх зямель, датычыць мэліорацыі.

Але само сабою разумеецца, што тыя шырокія льготы, якія мы даем пры мэліорацыі, будуць пашырацца толькі на тых сялян, якія праводзяць грунтоўнае палепшаньне зямлі, грунтоўныя мэліорацыйныя мерапрыемствы. Зрэзкі купін, напрыклад, нельга аднесьці да грунтоўнае мэліорацыі, гэта ёсьць толькі адна з частак мэліорацыі. Розныя льготы сяляне будуць атрымліваць толькі за тую мэліорацыю, якая будзе праведзена паводле тэхнічнага пляну, зложанага тэхнікамі.

У гэтай частцы сельска-гаспадарчай мэліорацыі мы прадугледжваем і правы на нашае рэспубліканскае багацьце—торф.

Усе тарфяныя залежы складаюць дзяржаўную ўласнасьць і знаходзяцца ў агульным кіраваньні Наркамзему. Асобным дзяржаўным установам тарфяныя масывы могуць давацца ў карыстаньне. Напрыклад, цяпер Асінаўскай электростанцыі перадалі вялікі тарфяны масыў у карыстаньне. Паводле гэтага прынцыпу будзем ісьці і далей. Калі трэба будзе організаваць якую-небудзь фабрыку або завод, дык Наркамзем будзе перадаваць тыя ці іншыя абшары торфу гэтым установам, але ўвесь фонд павінен знаходзіцца ў агульным карыстаньні Наркамзему. Аднак, разам з гэтым торфавыя залежы будуць дзяліцца на такія, якія маюць дзяржаўнае значэньне і якія будуць знаходзіцца непасрэдна пад загадам Наркамзему. Да такіх залежаў будуць залічаны тыя, якія маюць звыш 100 гэктараў абшару; тыя-ж, якія маюць 100 гэкт. і ніжэй, будуць знаходзіцца пад загадам мясцовых установаў. Тут, таварышы, таксама былі спрэчкі аб тым, якія тарфяныя абшары перадаваць мясцовым установам. Былі прапановы, каб перадаваць да 50 гэктараў, бо 1 дзес. торфу адпавядае па запасах апалу 30 дзес. лесу. Але мы лічым, што трэба перадаць 100 дзес. торфу, г. з., вялікія апалавыя энэргетычныя рэсурсы, што адпавядае 3.000 дзесяцінам лесу. Правы селяніна на торфараспрацоўкі такія: для гаспадарчых патрэб сялянам дазваляецца капаць торф бясплатна, але калі селянін будзе капаць торф для продажу, дык тут будзе брацца рэнтная плата (прыблізна, у сучасную пару гэта абыходзіцца ў 1 руб. за куб, а куб каш-

тue ў нас на рынку ў Менску, прыблізна, 30 руб.). Такім парадкам, ёсьць рацыя плаціць. Вось, прыблізна тое, што я хацеў зазначыць аб торфараспрацоўцы.

Як стаіць пытаньне аб лесамэліорацыі? Павінен сказаць, што ў нас, на Беларусі, ёсьць шмат зямель, якія іначай мы ня здолеем выкарыстаць, як спосабам аблясеньня. Ёсьць такія пясчаныя і іншыя землі, якія можна выкарыстаць толькі шляхам лесанасаджэньня. Такія землі ёсьць амаль у кожнай вёсцы. Каб выклікаць ініцыятыву сялян да лесаводзтва трэба будзе зьвярнуць асаблівую ўвагу на мэліорацыю. Тут дзяржава будзе прымаць цэлы шэраг мерапрыемстваў, напрыклад, дармовае даваньне насеньня, вызваленьне ад сельгаспадатку тых абшараў, якія будуць аблесены, дармовае карыстаньне аблесенаю плошчаю. Можа нават трэба будзе гарантаваць, калі абшары пяройдуць дзяржаве,—выплату сялянам за зробленыя выдаткі па аблясеньню. Усё гэта прымушае нас зьвярнуць увагу, на разьвіцьцё лесаводзтва ў сялянскіх гаспадарках. Гэтую работу трэба будзе пашырыць. Прававыя прынцыпы гэтае галіны таксама прадугледжаны водна-мэліорацыйным кодэксам.

Зараз пераходжу да самага галоўнейшага і да самай спрэчнай часьці нашага водна-мэліорацыйнага кодэксу,—г. зн. да тых зямель, на якіх мы павінны зрабіць мэліорацыю, а таксама і да тых, на якіх ужо зроблена мэліорацыя. Тут, таварышы, самая спрэчная часьць нашага водна-мэліорацыйнага кодэксу. Калі Наркамзем паставіў перад сабою задачу ўцягнуць у сельска-гаспадарчы зварот усе гэтыя нявыгодныя землі,—перад намі паўстала пытаньне, якім парадкам, якімі сіламі і сродкамі можна правесьці гэтую найвялікшую работу ў найбліжэйшыя гады. І тут перад намі вырысоўваліся наступныя кон'юнктуры. Папершае, мы ведаем, што для таго, каб гэтыя землі дапасаваць, зрабіць культурнымі—патрэбна многа сродкаў, многа работы залажыць у гэтую справу. У каго-ж знаходзіцца большая частка сродкаў на вёсцы? У сераднякоў, заможных моцных сялян,—у іх знаходзіцца капітал. Гэта адны кандыдаты на працу па правядзеньню мэліорацыі. Другая часьць—маса беднякоў у вёсцы, якія спадзяюцца пры дапамозе мэліорацыі пашырыць сваё сапраўднае зямлякарыстаньне—трымаць прырэзку зямлі. Але гэтая часьць сялянства без капіталу. А вы, таварышы, павінны ведаць, што для таго, каб прывесьці ў культурны стан нявыгодныя, кінутыя землі—неабходна затраціць прыблізна 200—300 р. на дзесяціну, але, прымаючы пад увагу беднасьць і занапаласьць сялянскай гаспадаркі, гэта будзе вельмі вялікі капітал. І вось, таварышы, нам прышлося пры распрацоўцы гэтага кодэксу ўзяць такі кірунак у вырашэньні гэтага пытаньня. Галоўнай фігураю правядзеньня мэліорацыі з боку клясава-соцыяльнага будзе так або іначай серадняк. Ён павінен зьявіцца сярэдняй цэнтральнай фігурай і па капіталу і па рабоце і павінен за сабою пацягнуць і бедняка. Нашы мерапрыемствы і законы мы павінны пабудаваць так, каб стварыць базу для вылучэньня і абароны клясавых інтарэсаў як беднякоў, гэтак і сераднякоў у іх барацьбе за культуру балот. Вось тыя прынцыпы, якія намі павінны праводзіцца. Для таго, каб уцягнуць сераднякоў у шырокую работу па мэліорацыі, нам трэба пашырыць нормы зямлякарыстаньня, бо зараз у нас селянін мае, прыблізна, 8-9 дзесяцін на гаспадарку. Такім парадкам, калі мы нормы не пашырым, дык мы ня створым зацікаўленасьці для серадняцкіх гаспадарак у мэліорацыйных мерапрыемствах. Нам неабходна ўцягнуць серадняка ў мэліорацыйныя мерапрыемствы, нам трэба пашырыць тыя нормы нашага зямлякарыстаньня, якія існуюць. Вось тут мы праводзім такі прынцып. Я ўношу некаторыя зьмены да

таго проекту, які ёсьць у вас на руках. Мы думаем праводзіць такі прынцып. Сялянам аб'яднаным у мэліорацыйныя таварыствы, будуць давацца павялічаныя нормы, да падвойнай максымальнай. Далей, асобныя гаспадаркі, не аб'яднаныя ў мэліорацыйныя таварыствы, будуць карыстацца пашыранай паўторнай нормай. Такім парадкам, прымаючы гэта, як прынцып, мы лічым, што нормы беднякоў і серадцякоў, аб'яднаных у таварыствы, могуць пашырыцца ў падвойным разьмеры, а ў паасобных гаспадарках—у падвойным з паловаю разьмеры. Але хто належыць да паасобных гаспадарак? Гэта будуць хутаране, гэта будуць заможныя сяляне. Чаму мы павінны пашырыць іх норму? Справа ў тым, што па праву, якое існуе аб культурных гаспадарках, нормы іх пашыраюцца ўдвойчы або ў паўтара разы. Асушка і мэлорацыя гэта таксама цяжкія культуры. Тут трэба рабіць такія-ж самыя перавагі, як і ў культурнай гаспадарцы, г. зн. трэба пашырыць нормы. Апрача таго, гэта, таварышы, будзе нешта накшталт концэсіі нашым кулачным элемэнтам на вёсцы. У нас ёсьць такія землі, якія знаходзяцца ў дзікім стане, якія зусім ня выкарыстаны. Што-ж,—лепш пакінуць гэтыя землі ў дзікім стане, ці, з дапамогаю наданьня льгот заможным сялянам, уцягнуць гэтыя землі ў гаспадарчы зварот? На мой погляд, значна лепш з агульна-гаспадарчага боку ўцягнуць гэтыя землі ў гаспадарчы зварот з дапамогаю пашырэньня найменшых норм заможным сялянам. Разам з гэтым, неабходна ўхваліць, каб у першую чаргу землі, якія належаць мэліорацыі, перадаваліся найбяднейшым малазямельным і безьзямельным сялянам. Аб гэтым трэба ўставіць паасобны пункт ў наш кодэкс. Нашае найбяднейшае незаможнае сялянства павінна ведаць, што тыя самыя балоты, на якіх зараз павінны праводзіцца мэліорацыйныя работы, зьяўляюцца апошнім зямельным фондам. Калі гэты апошні зямельны фонд ня будзе імі выкарыстаны, дык пасьля будзе надзвычайна цяжка і нават зусім немагчыма атрымаць зямлю. Дзеля гэтага мы сваёю аграрнаю політыкай павінны паставіць перад беднатою вёскі задачу аб'яднаньня самых бедных сялян ў мэліорацыйныя таварыствы. Гэтым мэліорацыйным таварыствам у першую чаргу будуць давацца землі для мэліорацыі. Гэтыя таварыствы будуць карыстацца доўгатэрміновым крэдытам, ім будзе дадзены тэхнічны пэрсонал, які будзе кіраваць іхняй работаю. Трэба правесьці самае шырокае ўцягваньне найбяднейшага і серадняцкага сялянства ў справу мэліорацыі. Вось, прыблізна, тое, што мы маем на ўвазе зрабіць. Гэты проект трэба яшчэ дэталізаваць. На першым месцы, зразумела, павінна быць пастаўлена самае беднае сялянства, потым—серадняцкае, а на апошнім месцы—кулацкае.

Таварышы, перадача кулацкім элемэнтам балот, пашырэньне іх норм няўхільна давядзе да ўзмацненьня «балотных» кулакоў. «Балотныя» кулакі будуць значна больш небясьпечнымі кулакамі. Гэта трэба мець на ўвазе пры вырашэньні пытаньня, але ня трэба забывацца таксама і на тое, што без кулака мы ня можам абыйсьціся, бо нам патрэбны іх капітал. Пашырэньне нормаў паасобных гаспадарак будзе прадугледжана і будзе дазваляцца зямельнымі камісіямі ў кожным выпадку. Якія тут яшчэ ёсьць важныя прынцыпы.

А вось якія; калі нявыгадная зямля будзе знаходзіцца ў межах таго або іншага раёну, тае або іншае вёскі, тэй або іншай сялянскай гаспадаркі, якія будуць адмаўляцца праводзіць мэліорацыю, дык гэтыя землі, згодна прынцыпу, які праводзіцца законам, будуць перадаены тым, хто згодзіцца праводзіць мэліорацыю на працягу запрапанованага тэрміну. Гэтую політыку трэба праводзіць, бо да сучаснага моманту цэлы шэраг вёсак мае большыя плошчы дзікае зямлі, і яны

не праводзяць на іх ніякіх мерапрыемстваў для палепшаньня гэтае зямлі. Мы павінны праводзіць рашучую політыку, павінны ў выпадку адмаўленьня праводзіць мэліорацыйныя работы, гэтыя землі перадаваць тым, хто будзе згодзен гэтую мэліорацыю праводзіць. Калі-ж ня знойдзецца жадаючых, дык дзяржава павінна організоўваць мэліорацыю за свой кошт. Вось тая політыка, жорсткая політыка, якая будзе праводзіцца. Асабліва жорсткім зьяўляецца адзначаны прынцып. Ён прымусіць усіх узяцца за шырокую мэліорацыю, але бяз прымусу мы ні ў якім выпадку ня здолеем у бліжэйшы год разьвязаць шырокія мэліорацыйныя мерапрыемствы.

Далей, таварышы, закон прадугледжвае тыя гарантыі, што мы павінны даць сялянам, якія будуць праводзіць мэліорацыю. А то ў нас бываюць такія здарэньні; селянін, напрыклад, мэліораваў сваю зямлю, карэнным чынам палепшыў яе, а пасьля гэтага ў яго гэтую зямлю адбіраюць і аддаюць другому, а яго перасяляюць у іншае месца, парою нявыгоднае. І вось ён зноў пачынае скакаць «лявоніху» ад печы: абсушваць, мэліораваць і г. д.

Мы павінны ў сваім законе прадугледзіць такое права, што калі селянін палепшыць сваю зямлю, правядзе дрэнаж, асушку і г. д., і калі зямля яго, у крайнім выпадку, будзе ад яго адбірацца, дык, калі гэта робіцца для дзяржавы,—дзяржава павінна аплаціць усе тыя сродкі, якія селянін патраціў на гэтую зямлю. Калі-ж гэтая зямля пераходзіць да другога селяніна, дык ён павінен аплаціць усе выдаткі, зробленыя селянінам на гэтую зямлю. Уладай будзе прадугледжана ў спэцыяльна распрацаваных правілах, якім парадкам гэта будзе компэнсыравацца. Калі мы гэтай гарантыі не дамо, мы ня створым зацікаўленасьці ў нашага селяніна праводзіць шырокую мэліорацыю, затрачваць на гэта свае сродкі і г. д. З гэтае прычыны прынцып гэты трэба правесьці ў чым-бы та ні было.

Вось самыя галоўныя і самыя спрэчныя прынцыпы.

Далей, мы, па свайму закону, уводзім пэўны парадак, як павінны праходзіць мэліорацыйныя справы. Такіх спраў маецца шмат. Сялян, якія займаюцца мэліорацыяй, таксама шмат; але ня было каму кіраваць гэтымі справамі. Цяпер устаноўлены такі парадак, як і пры зямляўпарадкаваньні. Напрыклад, організуецца мэліорацыйнае таварыства. Яно падае заяву ў раённую зямельную камісію аб тым, што хоча правесьці мэліорацыю. Пасылаецца культтэхнік або гідротэхнік, які складае проект. Проект гэты прад'яўляецца ўсім сялянам. Калі ёсьць якія-небудзь спрэчкі, дык гэтыя спрэчкі будуць разглядацца ў зямельнай камісіі. Гэты плян будзе праводзіцца ў жыцьцё самім таварыствам пад кіраўніцтвам тэхніка. Вось, прыблізна, які парадак уводзіцца ў правядзеньні мэліорацыі. Пры гэтым устаноўлены такі прынцып, што тэхнічнае кіраўніцтва мэліорацыйнымі мерапрыемствамі, мэліорацыйнымі таварыствамі будзе праводзіцца за кошт дзяржавы, а падрыхтоўка мэліорацыйных спраў і кіраўніцтва гэтымі справамі на тых мэліорыруемых плошчах, дзе мэліорацыя будзе праводзіцца дзяржаўнымі ўстановамі,—пойдзе за кошт і на сродкі гэтых устаноў.

Цяпер, далей, таварышы. Усе справы па мэліорацыі будуць разглядацца таксама, як і зямельныя справы, пасьля акруговай,—у асобнай зямельнай вышэйшай камісіі.

Пераходжу да фінансаваньня. Я ўжо казаў аб тым, якія прынцыпы ўстанаўліваюцца. Прынцып стары: 50 проц. за кошт дзяржавы і 50 проц. за кошт сялянства.

Цяпер аб крэдыце. Крэдыт будзе давацца, галоўным чынам, бядняцкім сялянскім гаспадаркам, і мы будзем сачыць за тым, каб гэ-

ты крэдыт сяляне скарыстоўвалі выключна на мэліорацыю; бо да гэтага часу мы мелі такую зьяву. Селянін атрымлівае крэдыт і дзеліць яго па 50—20 руб. на брата і ніякіх мэліорацыйных спраў ня робіць. У кодэксе прадугледжаны жорсткія меры адносна тых сялян, якія ня будуць скарыстоўваць крэдыт на тое, на што ён асыгнаваны.

Папершае—калі крэдыт ня будзе напраўляцца на мэліорацыйныя мерапрыемствы, ён будзе тэрмінова адбірацца ў адміністрацыйным парадку. Крэдыт будзе выдавацца пад тыя мерапрыемствы, якія будуць праводзіцца,—пад ураджай гэтых зямель і г. д. і г. д. З аднаго боку, будзе льготны крэдыт, а з другога—будзе жорсткая палітыка, калі крэдыт ня будзе скарыстоўвацца на тое, на што адпушчаны.

Што тычыцца аховы пабудаваньняў, шлюзаў, дык па закону будзе праведзены такі прынцып, што дзяржаўныя мерапрыемствы будуць ахоўвацца дзяржавай, а заснованыя насельніцтвам—гэтым апошнім. Рэгістрацыя ўсіх мэліорацыйных мерапрыемстваў ускладаецца на НКЗем. Пры НКЗеме організуецца Водна-Мэліорацыйны Камітэт для рэгуляваньня ўсёй справы па воднай гаспадарцы і мэліорацыі.

Я-б яшчэ хацеў спыніцца некалькі мінут на адным пытаньні. Праз мэліорацыю ва ўмовах БССР можна будзе пашырыць колектывізацыю сельскай гаспадаркі. Нашы сяляне ўжо бачаць, што ім адным справіцца з мэліорацыйнымі мерапрыемствамі ні ў якім выпадку нельга. Для таго, каб перамагчы ўсе гэтыя балоты, для таго, каб прывесьці іх у належнае культурнае становішча, для гэтага трэба аб'яднацца ў мэліорацыйныя таварыствы. Але да гэтага часу сяляне аб'ядналіся ў мэліорацыйныя таварыствы для таго, каб праводзіць асушку. Гэтага мала,—калі яны пераходзяць да культтэхнікі, да ўзорваньня, да дрэнажу, дык тут таксама цяжка селяніну справіцца з гэтымі балотамі. Тут яшчэ больш насьпявае неабходнасьць у мэліорацыйных таварыствах. Я прывяду прыклад. Да гэтага часу ў нас сяляне рабілі ўзорваньне коньмі. Але коні, як вы ведаеце, у нас маленькія. І выходзіць, калі селянін запражэ коняй, яны скачуць, як казлы: адзін у адзін бок, другі ў другі, і, зразумела, ніякага ўзорваньня зрабіць нельга. Апрача таго, узорваньне коньмі абыходзіцца ў 70—80 руб. на дзесяціну. Мы ў гэтым годзе спрабавалі скарыстоўваць трактары, і тады ўзорваньне каштавала ўсяго 15—16 руб.

Таварышы, мы ў бліжэйшыя гады асушым сотні тысяч дзесяцін. Калі да гэтага часу мы не маглі знайсьці грунту для скарыстаньня трактараў ва ўмовах Беларусі, дык цяпер ужо знайшлі. Для нас цяпер стала ясна, што да таго часу, пакуль не ўвядзем трактарнага ўзорваньня балот, да таго часу культура балот ня пойдзе ўперад. Культуру балот мы правядзем толькі на трактарах. Гэта павінен зразумець кожны селянін. Гэта каштуе нядорага і дае вялізарны гаспадарчы эфэкт.

І вось у гэтым годзе мы думаем спэцыяльна організаваць па ўсіх акругах паказальнае ўзорваньне трактарам у мэліорацыйных таварыствах. Думаем за кошт дзяржавы купіць трактары і правесьці паказальнае ўзорваньне, з тым, каб гэтым паказальным ўзорваньнем пераканаць сялян, каб яны самі, аб'яднаўшыся ў мэліорацыйныя таварыствы, куплялі трактары, пры дапамозе якіх можна правесьці шырокую культуру балот.

Такім чынам, вы бачыце, што трактары таксама будуць дапамагаць аб'яднацца нашым сялянам, колектывізуючы іх на мэліорыруемых балотах.

Пойдзем далей: возьмем усе гэтыя канавы, шлюзы, пабудаваньні,—яны-ж ня могуць знаходзіцца ў карыстаньні аднаго селяніна. Яны могуць знаходзіцца ў карыстаньні цэлай групы сялян. Сыстэма ўсіх мэліорацыйных мерапрыемстваў, усіх пабудаваньняў, прымушае сялян карыстацца мэліорыраванымі землямі на коопэрацыйных пачатках. Балотна-лугавы інвэнтар, які страшэнна дарагі, аднаму селяніну ні ў якім разе не пад сілу набыць і яго можна набыць толькі на таварыскіх, колектыўных пачатках.

Такім чынам, разьвіваючы культуру работ, пашыраючы мэліорацыю, мы тым самым будзем павялічваць і пашыраць колектывізацыю савецкай гаспадаркі. Тут, праўда, наш селянін будзе толькі напалову колектывістым, а напалову індывідуалістым, таму што рэштай зямлі ён будзе карыстацца самастойна, а ў мэліорацыйных таварыствах, мэліорацыйнымі мерапрыемствамі ён будзе карыстацца на колектыўных пачатках, бо іншага падыходу тут нельга знайсьці. З прычыны гэтага мэліорацыя будзе мець шырокае і вялікае значэньне і з пункту гледжаньня колектывізацыі сельскай гаспадаркі.

Старшыня: Я думаю, мы цяпер зробім невялікі перапынак, пасьля чаго прыступім да спрэчак. Запісалася ўжо больш 25 чалавек. Супярэчаньняў няма?

(Агалашаецца перапынак на 10 мінут).

Старшыня: Пасяджэньне працягваецца. Слова ў парадку спрэчак мае тав. Тамашэўскі.

Тав. Тамашэўскі: Я думаю пачаць перш за ўсё з балот, а потым перайсьці да ўсяго кодэксу. Калі мы паглядзімо на карту, дзе чырвонымі значкамі паказана праца мэліорацыйных таварыстваў, дык можна з упэўненасьцю сказаць, што ў нас за час грамадзянскай вайны балота больш зарасло, чымся мэліоравана. Я мяркую аб гэтым па нашаму павету. Вялікім недахватам у сялянскім жыцьці зьяўляецца адсутнасьць сенажаці. Наш селянін чакае зямляўпарадкаваньня і дзеля гэтага нядбала адносіцца да карчаваньня і мэліорацыйнае работы.

Потым я лічу, што мэліорацыя павінна быць падзелена на дзьве часткі: карчаваньне і паляпшэньне павінна адбывацца за кошт насельніцтва, а асушку балот, вадапрыёмнікі і г. д. неабходна праводзіць за кошт дзяржавы. Калі гэтага ня будзе зроблена, дык нашы балоты будуць з кожным годам прыходзіць у вялікі заняпад, бо ўласнымі сіламі насельніцтва гэтага зрабіць ня здолее.

Тутака гаварылася аб тым, што ўсе рэчкі і каналы павінны знаходзіцца пад дзяржаўнай аховай. Але разам з тым тутака гаварылася і аб тым, што трэба прымусіць сялянства прымаць удзел у рабоце па мэліорацыі. Я лічу, што прымушэньне сялянства да асушкі балот утворыць вельмі цяжкое становішча на вёсцы, бо асушка балот зьвязана не з паасобнымі гаспадаркамі, а з шэрагам вёсак, на працягу некалькі вёрст. А раз гэта так, дык трэба было-б праводзіць самую асноўную асушку—магістральныя каналы—за кошт дзяржавы. Толькі такім чынам мы зможам зацікавіць бедняка і серадняка ў іншых мэліорацыйных, работах, як, напрыклад: карчаваньне, узворваньне і засяваньне.

Далей, тав. Прышчэпаў казаў, што ўжо маюцца трактары, якімі ўзворваюцца балоты. Я лічу, што аб трактары гаварыць яшчэ рана. Трактарам можна палепшаць сенажаці толькі ў Старадубскім павеце, а наогул нам трэба думаць аб тым, каб пабудаваць чаўны або плыты для пераправы, а ня з трактарамі хадзіць. Трактараў нам ня трэба купляць, бо ў нас, у Рэчыцкім павеце, ёсьць трактар, які пад час пра-

цы правальваецца, дзякуючы чаму прыходзіцца падкладываць пад яго дошкі, а потым пры дапамозе коняй або валоў везьці да хаты. Дзеля гэтага, памойму, перш за ўсё Наркамзем павінен паклапаціцца (гэта ў поўнай меры сваячасова), каб усе нашы балоты асушаліся за кошт дзяржавы, а іншыя работы па мэліорацыі могуць ісьці за кошт самога насельніцтва.

Цяпер я некалькі спынюся на самым кодэксе, на тым, што мне ўдалося заўважыць і што я лічу патрэбным паправіць: перш за ўсё, у арт. 17 на ст. 6 гаворыцца: «У карыстаньні зямельных грамад, воднамэліорацыйных таварыстваў або паселішч знаходзяцца крыніцы, студні, сажалкі, вадаправоды, ставы і каналы». Усё гэта, за выключэньнем каналаў, можна перадаць у карыстаньне грамады; каналы-ж павінны застацца пад ведамам дзяржавы, бо канал абслугоўвае ня толькі даную грамаду, а часам некалькі вёсак; і калі каналы будуць знаходзіцца пад ведамам насельніцтва, дык яны будуць зьнішчацца.

Далей арт. 18. Ён гаворыць: «Да ліку грамадзкіх вадазбораў належаць таксама невялікія прыродныя зборы вады, якія зьяўляюцца для мясцовых грамадзян крыніцаю забесьпячэньня вадою і задаваленьня іншых патрэб хатняй гаспадаркі, калі нават гэтыя вадазборы і знаходзяцца на зямлі паасобных двароў». Памойму, тут таксама няправільна, бо калі такімі вадаёмамі будуць карыстацца ўсе грамадзяне, дык у нас кожны кавалак зямлі можа падыйсьці пад гэтае паняцьце, і такім чынам мы будзем рабіць перашкоды многім гаспадаркам. Дзеля гэтага тутака трэба зрабіць папраўку, што да грамадзкага карыстаньня належаць толькі тыя землі, якія не засяваюцца і ня скошваюцца, бо калі наваколл гэтага вадаёму будзе заворана або скошана, тады гэтым будзе прынасіцца шкода наогул сельскай гаспадарцы. На 11 ст. разьдз. 3-ці ў арт. 29 сказана наступнае:

Пракладка труб для падняцьця і спуску вады і правядзеньне каналаў праз землі, якія знаходзяцца ў чужым карыстаньні, дазваляецца пры ўмове, што зямлякарысталыніку будзе сплачана зробленая шкода.

Я лічу, таварышы, што, паколькі ёсьць зацікаўленасьць дзяржавы і ваколічнага насельніцтва ў мэліорацыі, дык ня прыходзіцца лічыцца з тым, каб тыя прасторы, якія будуць выкарыстоўвацца для агульнага дабра насельніцтвам, зразумела, не займаліся. У арт. 39 сказана:

Скарыстаньне прыбярэжнымі зямлякарыстальнікамі берагавое паласы агульнага карыстаньня для пасеву, касьбы і выгану жывёлы дазваляецца бясплатна органамі Народнага Камісарыяту Зямляробства толькі ў тым выпадку, калі гэта не перашкаджае трыманьню ў належным парадку цячэньня вады і берагоў. Для скарыстаньня берагавое паласы агульнага карыстаньня суднаходных рэчак патрабуецца таксама дазвол органаў Народнага Камісарыяту Шляхоў Зносін.

Мы, таварышы, ведаем, што прымаем закон на шэраг год, а на мясцох будуць выкарыстоўваць ў розныя тэрміны. Нашы юрысконсульты так падыходзяць да сялянства, што ўмеюць навучыць і ў добры і ў дрэнны бок. Дзеля гэтага трэба дэтальна вывучыць кожнае слова, каб у далейшым Наркамзему і судовым органам было менш работы, бо кожнае славечка тлумачыцца так, як каму спадабаецца. Разьдз. 4 арт. 42, ст. 12:

Шкода, зробленая сельска-гаспадарчаму карыстаньню берагавою паласою агульнага карыстаньня пры ажыцьцяўленьні права агульнага карыстаньня вадою, ня сплачваецца.

Тут можна вытлумачыць іначай. Будзе; ці ня будзе там добрая ральля, зразумела, ні адзін селянін на падставе гэтага артыкулу

ня здолее дабіцца што-небудзь атрымаць за гэтую ральлю. Я лічу, што трэба дабавіць штосьць новае, уліць нешта жыцьцёвае, каб было меней клопату для ўраду і судовых органаў і меней утрат у сельскай гаспадарцы.

Для мяне ёсьць няяснасьць на ст. 36, разьдз. 18, арт. 165, дзе гаворыцца: усе торфавыя залежы, на якіх-бы землях яны не знаходзіліся, складаюць уласнасьць дзяржавы і падлічаюцца Народным Камісарыят Зямляробства.

А цяпер возьмем арт. 178. У ім гаворыцца так:

Торфавыя залежы мясцовага значэньня, якія знаходзяцца на землях працоўнага карыстаньня і ў лясох мясцовага значэньня, могуць скарыстоўвацца бясплатна для задаволеньня гаспадарчых патрэб мясцовага насельніцтва.

Тут я ня ведаю, як сказаць. У адным месцы ў 65 арт. гаворыцца аб тым, што ўсе гэтыя тарфавікі належаць дзяржаве, а ў другім, што часьць тарфавікоў можа быць выкарыстана для сельскай гаспадаркі. А далей у арт. 168 таксама гаворыцца:

Да торфавых залежаў мясцовага значэньня належаць тарфавікі плошчаю менш 100 гэктараў, а таксама тарфавікі з большаю плошчаю, якія ня ўключаны ў катэгорыю залежаў дзяржаўнага значэньня.

У гэтым месцы, мне здаецца, таксама трэба ўнесьці яснасьць.

Далей, арт. 169 гаворыць:

Торфавыя залежы распрацоўваюцца з дазволу зямельных органаў. Для атрыманьня дазволу трэба падаць на разгляд і зацьверджаньне зямельнага органу проект торфавых распрацовак і дэтальны плян торфавае гаспадаркі на ўвесь час карыстаньня залежамі.

Тут, таварышы, я лічу, што калі будзем дэтальна разглядаць гэтыя торфавішчы, а карта паказвае, што іх ня так мала, дык лепш было-б зьвярнуць самую сур'ёзную ўвагу на асушку балот, на мэліорацыю балот. У нас, здаецца, ёсьць шмат залежаў, якія мы можам выкарыстоўваць дзесяткі і сотні год, і якія цяпер знаходзяцца пад сельскай гаспадаркай, і на распрацоўку якіх трэба будзе затраціць працу самога насельніцтва,—гэта з аднаго боку.

З другога боку, крыўда будзе для самога насельніцтва, што на такія пустошы, як торфавішчы, калі будзе гэтая зямля прыведзена ў годнасьць, будуць адбіраць гэтую мэліораваную зямлю пры распрацоўцы торфу дзяржаўнага значэньня. Дзеля гэтага мая прапанова, каб Наркамзем заняўся гэтым пытаньнем і зрабіў так, каб усе гэтыя мясцовасьці, якія належаць прамысловасьці і якія трэба распрацаваць, заставаліся-б толькі пад дзяржаўным ведамам і сягоньнешні дзень і заўтрашні дзень і каб на іх не праводзіліся работы для дапасаваньня пад сельскую гаспадарку. А мы ведаем, што ў нас ёсьць асноўныя балоты, якія ніколі не дадуць карысьці сельскай гаспадарцы, нават і пасьля вялікай мэліорацыйнай работы.

Я абсьледваў адзін раён Васілеўскае воласьці, і там не на 10, а на 100 год хопіць торфу, бо паклады дасягаюць да 3-х сажань глыбіні і прасторы іх даволі вялікія. Гэта нам трэба пакінуць для дзяржавы, а ўсё астатняе трэба дапасаваць да сельскай гаспадаркі. Паскольскі тав. Прышчэпаў гаварыў, што на сягоньнешні дзень трэба дастаць 13 пуд. на карову ў адным месцы і 20 пуд. у другім месцы на харч, таму што сялянства нельга перакінуць ў другія раёны, дзе больш вольныя землі, і з кожным годам сялянства будзе пашыраць плошчы, дык трэба сягоньнешні дзень патурбавацца, каб усе гэтыя тарфавішчы, якія ў далейшым ня будуць прыгодны для сельскай гаспадаркі, заставіць за дзяржаваю. Там-жа, дзе яшчэ можна працаваць, тыя месцы дапаса-

ваць да далейшага вядзеньня сельскай гаспадаркі, прычым мэліорацыю праводзіць самому насельніцтву, а асушку за кошт дзяржавы.

Старшыня: Слова мае тав. Шчакалаў.

Тав. Шчакалаў: Таварышы, аб зацікаўленасьці сялянства ў мэліорацыйнай рабоце ня прыходзіцца гаварыць. У нашым раёне мэліорацыйныя таварыствы растуць, як грыбы. Калі ў 1923 г. у раёне было толькі па 2 таварыствы, дык цяпер іх налічваецца па 20-30.

Уся бяда ў тым, што няма каму кіраваць работаю гэтых мэліорацыйных таварыстваў. Мне здаецца, што неабходна даць у раён хоць па адным культурным тэхніку. Калі ў раёне будуць культтэхнікі, работа пойдзе лепш. Далей, я лічу, што апрача цэнтральнага і акруговага камітэту нам трэба мець яшчэ раённы камітэт. Гэта павінна быць унесена ў Кодэкс. У Кодэксе адзначаецца, што ўсе спрэчныя пытаньні павінны разьбірацца ў зямельных аддзелах. Толькі спрэчныя пытаньні, адкуль-жа будуць кіраваць самою работаю? Для кіраўніцтва самою работаю патрэбны раённыя камітэты. У нас ёсьць агрономы, якія будуць кіраваць нашаю работаю. Калі толькі ў акрузе будзе па адным культ. тэхніку ў складзе камісіі, дык нашы мэліорацыйныя таварыствы ня здолеюць весьці работу. З другога боку, зацікаўленасьць сялянства цяпер зьяўляецца бязумоўнай, і яе мы павінны пашыраць. Мы бачым, што ў гэтым годзе ў нас праroблена мэліорацыйная работа больш, чым на 60.000 кв. саж. Галоўная работа зроблена—праведзены галоўны канал. Але неабходна даць кірунак гэтай рабоце. Калі не зрабіць зямляўпарадкаваньня і пакінуць гэтую плошчу на некалькі год, дык прападзе ўся зацікаўленасьць і ўся работа сялянства. Трэба ў першую чаргу паставіць пытаньне аб зямляўпарадкаваньні, бо калі пачалі работу, дык трэба яе ўвесьці ў пэўную каляіну.

Яшчэ адзін момант. Трэба паставіць пытаньне аб тым, каб крэдыты, якія павінны атрымліваць нашы таварыствы, праходзілі ня праз акруговыя сельска-гаспадарчыя банкі, а праз раённыя крэдытныя таварыствы. Мы добра ведаем, што раённыя крэдытныя таварыствы маюць права толькі на асабістыя крэдыты, колектывам-жа не даюць. Я-ж лічу, што патрэбна даваць праз крэдытныя таварыствы крэдыты обчаствам. З якога боку? З таго боку, што нам неабходна будзе контроляваць і накіроўваць па простаму назначэньню гэтыя крэдыты.

Мы цяпер ня маем гэтага контролю, бо крэдыты праходзяць не праз раённыя выканаўчыя камітэты. Часам, дзякуючы гэтаму, мелі месца нараканьні. Я лічу, што выдача крэдытаў праз раённыя крэдытныя таварыствы будзе больш мэтазгоднаю; раённыя выканаўчыя камітэты будуць ведаць, куды і на што ідуць грошы. (Голас з месца: Цяпер-жа раённы зямельны камітэт толькі сьведчыць). Але, праўда, цяпер ён толькі сьведчыць.

Я хацеў зьвярнуць увагу яшчэ на адзін пункт ў 48 арт., дзе гаворыцца аб адказнасьці за ахову канаў і рэчак. Мне здаецца, што патрэбна ўнесьці адпаведны артыкул і ў Крымінальны Кодэкс. Нашы сяляне пракопваюць канавы, але не заўсёды ахоўваюць іх, не заўсёды выконваюць артыкул аб ахове гэтых канаў. Дзеля гэтага, я лічу, што за неахову канаў, за разбурэньне іх, павінна быць вызначана адказнасьць і невыканаўцы гэтага артыкулу павінны прыцягвацца да крымінальнай адказнасьці.

Цяпер аб рэгістрацыі (арт. 230 Кодэксу). Мне здаецца, што трэба рэгістраваць мэліорацыйныя таварыствы праз раённыя камітэты.

Старшыня: Слова мае т. Анішчанка.

Тав. Анішчанка: Па дакладу т. Прышчэпава я хачу спыніцца на адным з галоўных пытаньняў. Тав. Прышчэпаў гаварыў аб бяскор-

міцы ў нашай сельскай гаспадарцы. Ён упамянуў, што ў Аршанскай акрузе пад пасевы кармавых культур занята 15,7 проц. удобі. Гэта, таварышы, колькасьць нездавальняючая. Для палепшаньня палажэньня з харчаваньнем быдла, я лічу патрэбным правесьці наступныя мерапрыемствы. Нам трэба патурбавацца аб насеньні к вясьне. Напрыклад, нам трэба канюшына і лыга. Час таксама падумаць і аб азімай лызе. Сялянства ўжо ведае, што такое люцэрна, што такое азімая лыга. Аб дастаўцы гэтага насеньня трэба патурбавацца. Неабходна гэтае насеньне адпускаць у крэдыт і пры тым доўгатэрміновы крэдыт. Калі насеньне будзе выдадзена ў крэдыт, у кароткатэрміновы крэдыт, дык сялянства ня здолее палепшыць сваю гаспадарку. Бо многія гаспадаркі перайшлі на новае землякарыстаньне, атрымалі новыя дзялянкі зямлі і на перабудову іх атрымалі кароткатэрміновыя крэдыты. Калі ня будуць дадзены доўгатэрміновыя крэдыты пры атрыманьні насеньня, дык сельская гаспадарка ня здолее стаць на патрэбную вышыню.

Далей, таварышы, нам трэба на вёсцы больш агрономіі, больш літаратуры. На працягу 5-ці год я вяду сваю сельскую гаспадарку, і за гэты час да нас у вёску агроном прыехаў адзін раз толькі тады, калі мы падалі заяву аб організацыі малочнае арцелі. Я лічу, што пабыць адзін раз на працягу 5-ці год мала.

І вось, побач з гэтым, я хачу напомніць аб тым, каб наша агрономія наладзіла невялікія паказальныя вучасткі.

Далей, тутака выказваліся таварышы за тое, каб далі больш зямлі,—тады можна будзе разьвіць гаспадарку. Але ёсьць такія мясцовасьці, дзе зямля ня зусім кепская, аднак, і там просяць зямлі. Я лічу, што даваць больш ня трэба, але трэба так урабляць зямлю, як раіць агроном,—і тады хопіць і збожжа і ўсяго, чаго хочаш.

Старшыня: Слова мае тав. Будны.

Тав. Будны: Таварышы, праводзіць мэліорацыю ў жыцьцё—гэта значыць будаваць базу для адраджэньня нашае дзяржавы на аснове соцыялізму. Я лічу, што воднамэліорацыйны кодэкс распрацован Наркамземам добра, і застаецца толькі правесьці яго ў жыцьцё, тады мы дасягнем самых дадатных вынікаў. У гэтым кодэксе прадугледжаны ўсе тры галоўныя дадатныя бакі, якія прынясуць нам карысьць. Папершае, пры нашым агульным малазямельлі, пры аграрнай перанаселенасьці, мы, дзякуючы мэліорацыйным работам, атрымаем значную плошчу зямлі, якая знаходзіцца зараз яшчэ ў дзікім стане. Падругое, пры тым беспрацоўі, як казаў тав. Прышчэпаў, мы дамо работу найбольш беднаму сялянству. Апрача гэтых экономічных выгад, мэліорацыйная праца мае вялізнае палітычнае значэньне ў жыцьці нашае вёскі. Як у старыя часы сялянства глядзела на такія дзікія забалочаныя плошчы? Яно лічыла іх вадзяной прасторай, якую ніколі ня выкарыстаеш. Сялянства ў гэтым бяздоньні тапілася, здабываючы няшчасную асоку і г. д. Але калі ў нашым Талочынскім раёне скончылі ўрэгуляваньне рэк Усьціж—Буг, дык адразу гэта дало вынікі. Балоты асушылі, і сялянства адразу паехала на калёсах для зьбіраньня сена. Яны на факце ўбачылі вынікі гэтае работы. А мы ведаем, што сялянства наогул мала верыць тэорыі і агітацыі, яно больш верыць практыцы. І вось, калі яны ўбачылі на практыцы карысьць ад мэліорацыі, дык яны пераканаліся, што ім трэба і самім узяцца за гэтую работу. Тут гаварылі, што неабходна праводзіць агітацыю. Я абсолютна з гэтым ня згодзен. Калі сяляне ўбачылі на практыцы, што атрымліваюцца добрыя вынікі, дык яны самі сталі організоўвацца ў мэліорацыйныя таварыствы, і цяпер трэба толькі гэтыя таварыствы добра накіраваць, даць ім практычныя заўвагі, а агітацыі тутака ня трэба. Пры нашым малазямельлі

сялянства само бачыць, што адзіным выхадам з цяжкога палажэньня зьяўляецца організацыя мэліорацыйных таварystваў.

Цяпер нам застаецца самае галоўнае—навучыць сялянства культываваць гэтыя сенажаці, рабіць тыя ці іншыя паляпшэньні. Рэгуляваньне скончана. Але тутака мала навучыць, неабходны яшчэ сродкі і машыны, бо без машын і сродкаў нельга палепшыць гэтыя сенажаці. Сялянства цяпер добра зразумела, што толькі савецкая ўлада правільна праводзіць політыку і можа дапамагчы ў гэтай мэліорацыі, тым самым узмацніўшы сельскую гаспадарку.

Я лічу таксама неабходным павялічыць паказальныя вучасткі. Апрача таго, патрэбен хоць-бы адзін культуртэхнік на раён, які даваў-бы практычныя заўвагі.

Адносна крэдыту. Пажадана, каб крэдыты атрымліваліся ў бліжэйшых сельска-гаспадарчых таварыствах, каб скараціць вандраваньне ў акругі і г. д.

Тав. Тамашэўскі казаў, што трэба праводзіць каналы за кошт дзяржавы; тады гэтым зацікавім бедняка і серадняка. Я лічу, што тав. Тамашэўскі ня мае рацыі. Як я ўжо гаварыў, сяляне самі зацікаўлены цяпер у атрыманьні плошчы на пашырэньне сваёй гаспадаркі. Тутака самую галоўную працу бярэ на сябе дзяржава, а рэшту сялянства будзе само праводзіць. Неабходны толькі практычныя заўвагі. Тое, што дзяржава можа даць, яна бязумоўна дае. Ясна, што калі-б бюджэт быў большы, дык дзяржава давала-б большую дапамогу, але з прычыны беднасьці бюджэту трэба з гэтым лічыцца. Нельга спадзявацца на тое, што хто-небудзь гэта зробіць і дасьць нам гатовыя землі. Трэба самім папрацаваць.

Потым тав. Тамашэўскі баіцца, каб не перагрузіць судовыя органы. Ну, нічога ня зробіш,—на тое і існуюць судовыя органы, каб рэгуляваць тыя ці іншыя ўзаемаадносіны грамадзян у тэй ці іншай галіне працы.

Так што наогул я лічу, таварышы, што сялянства добра зразумела мэту і выгаду гэтае працы і само пачынае організоўвацца ў мэліораныя таварыствы; але тутака неабходны практычныя заўвагі.

С т а р ш ы н я: Слова мае тав. Козыраў.

Тав. К о з ы р а ў: Я хачу крыху дакрануцца пытаньня аб зямляпарадкаваньні і як гэта адбіваецца на мэліорацыі. Да гэтага часу пры зямляўпарадкаваньні Савецкая ўлада зьвяртала вялікую ўвагу на колектыўныя гаспадаркі і выселкі, а тымчасам у нас устаноўлены вольны выбар зямлякарыстаньня і ў нас ёсьць і хутары, якія ўжо зямляўпарадкаваліся з 1917 году. Як у нас праходзіць зямляўпарадкаваньне? Звычайна часьць сялян заяўляе, што яна хоча перайсьці на зямляўпарадкаваньне; заможныя сяляне, у якіх зямлі многа, тыя завуцца «нехацімцамі», таму што яны ня хочуць ісьці на зямляўпарадкаваньне. Бедната-ж і серадлякі хочуць. Такім парадкам, выходзіць раскол. Вось адбываецца зямляўпарадкаваньне, робіцца ацэнка зямлі. Але той, хто ня хоча перайсьці на зямляўпарадкаваньне, дык яго-ж не зганяюць, і ён надзяляецца зямлёю на месцы, а беднату і серадлякоў надзяляюць зямлёю дзе-небудзь далёка, дзе зямля горшая. Гэтыя хутаране і цяпер не карыстаюцца ніякаю дапамогаю—ні агрономічнай, ні іншай; бядняк-жа, які трапіў на такую дзялянку,—а трэба сказаць, што ў выселку ёсьць і добрая зямля, а на хутар звычайна выходзіць зямля ўжо нягодная,—і вось бядняк, які трапіў на хутар, не атрымлівае ніякіх ні парад ні дапамогі. Агроном адмаўляецца дапамагчы яму, кажучы, што ён зьвяртае ўвагу толькі на колектыўныя гаспадаркі і выселкі.

Усё-ж такі трэба дапамагчы і хутараніну, таму што ён, бывае, трапляе ў бязвыхаднае становішча. Дзеля гэтага мая прапанова, што калі закон дае вольны выбар зямляўпарадкаваньня, дык трэба зьвяртаць увагу і на хутаран.

Цяпер другое палажэньне. Многазямельны, які пры зямляўпарадкаваньні ня хоча пайсьці на выселак і застаўся на сядзібе,—ён плаціў раней 50 рублёў, а цяпер яму прыходзіцца плаціць толькі 5, а натаго, хто вышаў на хутар, накладаюць 50 руб. Дык гэты многазямельны, які застаўся на сядзібе, яшчэ кпіць з бедняка: «Вось табе, захацеў зямлі».

Мне было вельмі крыўдна, калі ўчора мяне пачалі ўпікаць, што я нібыта ня з беднае сям'і. Не, я—бядняк, але я гляджу ў абодва бакі, трэба-ж дапамагчы і такому селяніну, бо ён сам ня мае сілы падняцца.

Цяпер аб мэліорацыі. Тут тое-ж самае. Калі засноўваецца колектыўнае таварыства, дык яму даюць крэдыт. А што-ж рабіць паасобнай гаспадарцы, калі ёй трэба правесьці мэліорацыю? Ёй крэдыту не даюць. Дзеля гэтага я лічу, што сёньня ў законе трэба сказаць, што раз у нас свабоднае зямлякарыстаньне, дык трэба, каб усім давалася агрономічная дапамога.

Многазямельны, які застаўся на сядзібе, вядзе сваю скаціну на выстаўку, а таксама і другія экспонаты. Атрымлівае прэміі, льготы па падатку і сьмяецца над бедняком. Я лічу, што трэба зрабіць так, каб ня было крыўдна нікому.

Далей аб распрацоўцы торфу. Плян у нас вызначаны добры і правільны, бо мы маем мала лясоў. Лясы мясцовага значэньня бяз дагляду, і іх можна лічыць страчанымі, бо сялянства не беражэ іх, думае, што гэта яшчэ 17 год, што можна ўсё сячы. Мы гаворым пра апал торфам на кожнай Сэсіі, а трэба было-б паказаць селяніну, як гэты торф выкарыстаць. Вось у нас, у Лупалаўскім раёне Магілеўскае акругі, ужо 3-ці год як пачата распрацоўка торфу, але нам не паказваюць, як прыстасоўваць торф. Стаяць там машыны, яны заіржавелі, а куб торфу каштуе 37 руб. Хто-ж яго будзе браць? (Дубіна з месца: А Капыскі завод?). Ну, можа быць завод бярэ, але-ж трэба паказаць, як гэты торф прыстасоўваць і для сялянскага апалу.

Старшыня: Слова мае тав. Алонаў.

Тав. Алонаў: Тав. Прышчэпаў, кажучы аб экономічным значэньні мэліорацыйных работ, не сказаў аб тым значэньні, якое мэліорацыйныя работы, асабліва ў пачатковай стадыі асушкі балот у нізкіх мясцовасьцях, пры дрэнажы грунту і г. д.,—маюць у справе захаваньня нашага жывёлаводзтва. Справа ў тым, што ў нашай Беларусі, моцна забалочанай, падобнай да некаторых паўночных губэрань па колькасьці балот, балоты і дагэтуль зьяўляюцца магілкамі для жывёл, якія падохлі ад розных хвароб,—і такім чынам гэтыя балоты і дагэтуль у шмат якіх мясцовасьцях зьяўляюцца месцамі розных заразных бацыл.

Вось чаму мы, напрыклад, у летнюю пару сустракаемся часам з разьвіцьцём сібірскае язвы ў некаторых раёнах. На Беларусі ёсьць месцы дужа забалочаныя. Дзеля гэтага па ўсіх акругах разьвіта хвароба былла, так званая пераплазма. Гэтая хвароба разводзіцца асобнымі самымі звычайнымі організмамі, якія выклікаюць крывавую мачу. Гэта выклікаецца асобнымі кляшчамі, якія звычайна гнезьдзяцца на кіслых травах, што растуць па нізкіх мясцох. Кляшчы пераходзяць да кароў, заражаюць іх і таму яны хварэюць на гэту хваробу. Ад гэтае хваробы беларускае сялянства мае вялікія страты, ня кажучы ўжо аб тым, што сьмертнасьць пры гэтай хваробе дасягае да 10 проц., пры-

чым на працягу азначанага часу,—не аднаго месяца,—сялянскія гаспадаркі пазбываюцца малака, пазбываюцца продукцыі.

У нас аўцаводзтва ў некаторых раёнах Беларусі зусім немагчыма. Справа ў тым, што для аўцаводзтва зьяўляюцца асабліва згубнымі дзьве хваробы: лёгачна-глістaвая і пячоначна-глістaвая. Гэтымі хваробамі вострa заражаюцца, галоўным чынам, у саджалках і нават у вялікіх лужах. Там знаходзяцца яечкі, і мы ведаем, як яны дзейнічаюць на авечак. Лекавыя меры не дапамагаюць, і ў вёсках часам авечкі здыхаюць цэлымі статкамі.

Самая распаўсюджаная хвароба ў Беларусі, як і наогул ў паўночных губэрнях на сьвіней,—гэта рожа і чума. Павышаны водны рэжым грунту грае бязумоўную ролю. Дзеля гэтага правядзеньне на гэтай Сэсіі воднамэліорацыйнага кодэксу будзе мець вялікае экономічнае значэньне ў справе захаваньня нашага жывёлаводзтва.

Старшыня: Слова мае т. Іваньковіч.

Тав. Іванькові ч: Таварышы, я хачу сказаць аб мэліорацыйнай рабоце. Да нас ў мінулым месяцы прыехаў з Полацкае акругі інструктар па мэліорацыі і склікаў сход сялян. Былі дзьве суполкі мэліорацыйных таварыстваў. Ён зрабіў даклад і так растлумачыў сялянам, што яны згадзіліся выкапаць па 25 саж. на сябра таварыства на свае сродкі; ухвалілі гэта ў протоколе. Бяда ў тым, што многа ёсьць бедных удоў, якія ня маюць рабочых мужчынскіх рук. А мужчыны кажуць, што баб трэба выкінуць з свае грамады і што ім не дадуць вучастка ў балоце, таму што бабы не памагаюць і не спраўляюцца з работай. У мяне ёсьць просьба з боку гэтых бяднейшых жанчын, каб урэгуляваць гэтае пытаньне, каб жанчыны ня былі пакрыўджаны.

Тав. Прышчэпаў у сваім дакладзе гаварыў аб млынох, што пры асушцы балот будуць зьніштожаны млыны. Тав. Прышчэпаў, у нас і без таго мала млыноў і сялянству прыходзіцца чакаць 3-4 дні ў чарзе на млыне, і калі зьніштожыць вадзяныя млыны, дык трэба замяніць іх іншымі млынамі.

Старшыня: Слова мае тав. Нікіфарэнка.

Тав. Нікіфарэнка: Таварышы, адносна мэліорацыі плян, які намаляваў тав. Прышчэпаў, зусім правільны, але праводзіць яго ў жыцьцё будзе надзвычайна цяжка. Узяць, напрыклад, наш б. Рэчыцкі павет; мы перашлі да Мазыра, дзе ёсьць балоты, якія цягнуцца на 25-50 вёрст. Ёсьць такія прасторы між астравоў, дзе ніхто ніколі ня быў, ніякі агроном ня быў, і гэтае балота пустуе і ніхто ніякай карысьці ад яго ня мае—ні дзяржава, ні сялянства.

Тав. Прышчэпаў паказаў на тое, што трэба організаваць мэліорацыйныя таварыствы, проста даваць ім зямлю, каб яны правялі канавы, і аддаць балота ў іх карысьць. У нас ёсьць купчыя, па якіх багатыры купілі гэтае балота; і тое балота, якое пустуе, замацована гэтымі купчымі. Памешчыкі ў свой час правялі канавы і балота асушылі, і калі праз гэтыя балоты правесьці канавы, дык сучасныя ўласьнікі гэтых балот на гэта ня згодзяцца. Я хацеў-бы, каб тав. Прышчэпаў паказаў, што рабіць, калі гэтыя грамадзяне ня згодзяцца. Грамадзяне заўсёды натужваюцца, і нават у Мазырскай акрузе надакучылі тым, што просяць выслаць тэхніка, каб той навучыў, як правесьці работу ў мэліорацыйных таварыствах. Мэліорацыйныя таварыствы, праўда, на паперы існуюць два гады, але карысьці ня прынесьлі таму, што ніхто ня робіць заўваг. У мінулым годзе ў Карпінскія мэліорацыйныя таварыствы прыехаў тэхнік, расказаў толькі раз у канцылярыі, як праводзіць работу, і ад'ехаў.

Цяпер аб землях. Тут таварышы гаварылі аб хутарох. Я маю 3 дзесяціны, 11 душ сям'і і нічога ня маю. Ёсьць вёскі, якія трэба разьдзяляць, інача жыць нельга, прыходзіцца ехаць у глухі Сібір. Т. Мікуліч ведае, што колькі-б мы ні гаспадарылі, карысьць будзе малая. Трэба падзяліць некаторыя вёскі, трэба, каб аб гэтым нехта падумаў.

Аб лясох мясцовага значэньня. Трэба было-б даць зямельным аддзелам загад, каб за гэтымі лясамі глядзелі.

Цяпер, далей. Тав. Прышчэпаў казаў аб тым, што трэба прыстасоўваць трактары. На нашых балотах ледзьве на лодцы пераедзеш, так што аб трактарах гаварыць не выпадае. Апрача таго, трактар могуць набыць серадзнякі і кулакі, а не беднякі. (Голас з месца: Набывайце праз коопэрацыю і таварыствы). Усё роўна кулак і ў коопэрацыі хутчэй трактар купіць, чымся бядняк. Далей, аб злучэньні беднякоў у таварыствы. Праўда, беднякі злучаюцца ў таварыствы, каб атрымаць зямлю, але ў гэтыя таварыствы ідуць толькі беднякі. У нас маецца мала народу ў таварыствах, і дзеля гэтага яны распадаюцца. Трэба, таварышы, прыяжджаць на вёску і дапамагаць бедняку ў гэтай справе.

Старшыня: Слова мае т. Паўлюкевіч.

Тав. Паўлюкевіч: Таварышы, наша практычная работа ў галіне мэліорацыі, у галіне здабываньня торфу ўжо настолькі пашырылася, што мы маем поўнае права ўсю набытую практыку ўвязаць у вадзін Водна-Мэліорацыйны Кодэкс. З гэтага пункту погляду кодэкс мае вялікі інтарэс і вялікае значэньне, тым болей, што гэта, здаецца, першая спроба кодэксу ня толькі ў нас, у СССР, а і наогул. (Голас з месца: Дзе гэта наогул?).

На земнай кулі, разумеецца. Гэтая работа настолькі цяжкая і паважная, што, я думаю, нам прыдзецца над ёю нямала папрацаваць. Ня гледзячы на тое, што на мінулай Сэсіі кодэкс у васноўным быў амаль прыняты, мне здаецца, што і ў сучасны момант трэба папрацаваць і ўраду—Савету Народных Камісараў і Цэнтральнаму Выканаўчаму Камітэту. Для мяне няясны гэткія пытаньні: у вадным з артыкулаў зазначана, што гэты кодэкс ахапляе, між іншым, правы Народнага Камісарыяту Шляхоў Зносін. Я сумняваюся ў тым, каб гэты артыкул быў добра ўзгоднены з адпаведным законам аб мяжы адчужэньня. (Голас з месца: Вы думаеце, што тут будзе мець месца парушэньне?).

Калі гэты артыкул ня будзе парушаць адпаведнага законадаўства, дык няма чаго пераказваць гэты закон і падпісваць яго імем улады. Трэба зрабіць ссылку на закон, які ёсьць, і ня трэба яго пераказваць. Тут няма поўнай увязкі паміж адпаведнымі законадаўствамі Саюзу і даным законам.

Я перагледзеў увесь кодэкс і не знашоў ніводнага слова аб выканкомах. Праўда, у вадным артыкуле гаворыцца, што мясцовы выканаўчы камітэт мае права выдаваць абавязковыя пастановы па санітарнай ахове вод. Толькі гэта гаворыцца пра мясцовыя выканаўчыя камітэты. Такое становішча гаворыць за тое, што тут Народны Камісарыят Земляробства ўнёс няправільную лінію, самую строгую цэнтралізацыю. Ёсьць такое становішча: у сучасны момант мэліорацыйныя таварыствы амаль абсолютна ня зьвязаны з раённымі выканаўчымі камітэтамі. Яны нікуды не далучаны. Яны знаходзяцца ва ўладзе зямельных аддзелаў,—а гэта такія органы, якя ня могуць справіцца з гэтай вялікай работай, якая на іх ускладзена. А таму мэліорацыйныя таварыствы зьяўляюцца бяспрытульнымі дзецьмі, якія ня ўключаны ў адпаведныя організацыі. Я лічу, што правы і абавязкі выканаўчых камітэтаў павінны быць у гэтым кодэксе больш падкрэслены.

Мне здаецца, што для нас ня зусім зразумелы некаторыя асобныя вызначэньні ў даным кодэксе. Напрыклад, гаворыцца, што мэліорацыйныя работы могуць быць работамі дзяржаўнага значэньня і работамі мясцовага значэньня, а далей гаворыцца, што работы мясцовага значэньня выконваюцца самым насельніцтвам. Мы да гэтага часу прызвычаіліся да другога. Пад маемасьцю мясцовага значэньня разумеецца маемасьць, якая знаходзіцца ў руках мясцовага савету або сельскіх саветаў, або раённых саветаў, або гарадзкіх, або акруговых саветаў.

Тутака-ж пад мясцовай мэліорацыяй разумеецца мэліорацыя сялянская. Або, напрыклад, гаворыцца, што за дзяржаўныя сродкі павінна праводзіцца ўся дзяржаўная мэліорацыя, прычым пад гэтай дзяржаўнай мэліорацыяй разумеецца тая мэліорацыя, якая павінна адбывацца на землях саўхозаў. Мы павінны адзначыць, што ў саўхозах мэліорацыя робіцца за іх кошт. (П р ы ш ч э п а ў з м е с ц а: Так і ёсьць). Трэба напісаць, што так і ёсьць. А то выходзіць, што сяляне павінны сваімі сіламі праводзіць работу, а саўхозы—ня ў стане. Аб гэтым павінна быць ясна напісана ў законе, бо, калі я гэтага не зразумеў, дык і сяляне не зразумеюць.

Возьмем яшчэ адну няяснасьць. Гэтая няяснасьць тычыцца карыстаньня берагавой лініяй і рознага роду вадаёмамі. Ня помню, у якім артыкуле напісана, што вадаёмы, якімі карыстаюцца падарожнікі, перадаюцца ў дарэмнае карыстаньне, а вадаёмы, якія знаходзяцца ў таварыстваў,—выкарыстоўваюцца за плату.

Або возьмем першы артыкул, дзе гаворыцца: «Усе воды ў межах БССР і новыя водатокі ды вадаёмы зьяўляюцца дзяржаўнай уласнасьцю і аднаводнай гаспадаркай», у тым ліку, значыць, і тыя, якія знаходзяцца пад ведамам Народнага Камісарыяту Шляхоў Зносін. Але яны не зьяўляюцца часткай нашае гаспадаркі. (П р ы ш ч э п а ў з м е с ц а: Зьяўляюцца). Вось я хацеў-бы ведаць, ці ўваходзяць сялянскія студні ў адзіную водную сыстэму, ці зьяўляюцца прыватнаю ўласнасьцю? (Г о л а с з м е с ц а: Абсталяваньне яго, а вада—не). «Рыба—ваша, вада—наша». Мы ведаем гэты выраз.

Такім чынам я лічу, што ў кодэксе маецца цэлы шэраг няяснасьцяй. Дзеля гэтага трэба будзе ў далейшым даручыць Прэзыдыуму Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту разьвязаць усе гэтыя пытаньні і высьветліць цэлы шэраг спрэчных пытаньняў. Бясспрэчна, трэба яшчэ раз папрацаваць гэты кодэкс і ўдакладніць яго, бо некаторыя месцы выклічуць вялікія непаразуменьні з боку насельніцтва: зьявіцца цэлы шэраг такіх спрэчных момантаў, якія наўрад ці ўдасца нам разьвязаць на аснове гэтага кодэксу.

С т а р ш ы н я: Слова мае тав. Захарэнка.

Тав. З а х а р э н к а: Таварышы, заслухаўшы даклад т. Прышчэпава, я хачу зьвярнуць вашу ўвагу на некаторыя моманты: напрыклад, аб вадаправоднай мэліорацыі. Хоць тав. Іванькові́ч і сказала, што млыны трэба захаваць, але не сказала якія. Перад тым, як ехаць на гэтую Сэсію ЦВК, мне прышлося ў Полацкай акрузе прыняць удзел у рабоце прэзыдыуму акрвыканкому. І вось, там я даведаўся, што гідратэхнікам у Ульскім раёне, на рацэ зроблена вадападводная пабудова. Гэты млын трэба захаваць, я аб гэтым сам гаварыў яшчэ на ІІІ-й Сэсіі ЦВК. Але ў Полацкай акрузе знаходзіцца і Тураўлянскі млын, які затапляе, прыблізна, 2.000 гэктараў сенажаці. Вадападзём гэтага млына дасягае 5 мэтраў. Ясна, што гэты млын прыдзецца зачыніць. У нас такіх вадападводных пабудоў маецца шмат. І вось, мне хацелася-б ведаць, ці ўсе вёскі, якія затапляюцца, павінны падаваць заявы аб зачыненьні гэтых млыноў у паасобку ці вялікія вёскі праз сваіх упаўнава-

жаных. (Прышчэпаў з месца: Могуць і разам, могуць і паасобку—як захочуць).

Тав. Тамашэўскі выступаў і плакаў, што спужаўся балота. Я думаю, што гэта зусім дарэмна. У нас хоць і невялікая плошча, але ва Ўшацкім раёне ёсьць мэліорацыйнае латыскае таварыства, якое ў 26 годзе ў сьвята 1 кастрычніка прывезла экспонаты з балот. Я сам быў у камісіі па разьмеркаваньні гэтых прэмій і першую прэмію атрымала латыская організацыя. У іх організавана мэліорацыйнае таварыства, сельска-гаспадарчае, малочнае, машынавае таварыства, яны маюць сваю бібліотэку і нават больш—гэтая невялікая кучка латышоў адчыніла сваю нацыянальную школу. Сродкаў у нас мала. І вось яны прышлі да старшыні райвыканкому і гавораць: мы так зробім, дадзім 1.000 руб., прывязем усе матар'ялы, якія патрэбны, каменьні, бярвеньне і г. д. А цяпер паглядзеце, якая там адчынена школа.

Усё гэта, дзякуючы згуртованасьці і організованасьці. Пры такім становішчы баяцца балот няма чаго.

У нас пакуль што ў Сарочынскім сельсавеце Ульскага раёну мэліорацыю праводзілі бяз жаднае дапамогі. Сяляне пракапалі канал. Цяпер толькі не хапае, каб на гэтым вучастку правялі зямляўпарадкаваньне, так што нам няма чаго балот баяцца.

Цяпер аб загатоўцы торфу. У нас ёсьць жаданьне, але трэба будзе запытаць у т. Прышчэпава, колькі будзе каштаваць таварыству заступ на здабываньне торфу для свайго ўжываньня.

Мяне больш цікавіла тое, што т. Тамашэўскі спалохаўся мэліорацыі. Няма чаго яе баяцца, трэба праводзіць так, як магчыма. У нас ёсьць такая прыказка: «Па адзежцы працягвай ножкі». Я летась быў у лапцях, а зараз—у валёнках.

Старшыня: Слова мае т. Зенькоў.

Тав. Зенькоў: Сёньня мы заслухалі даклад аб мэліорацыі. Бязумоўна, гэта справа добрая. Кожны з нас, кожны селянін-культурнік кажа аб тым, што не зямлі мала, а розуму мала; і гэта зусім правільна. Калі паглядзець на ўсе нашы зьезды, на ўсе нашы пленумы, усюды крычаць, што мала сенажаці, мала зямлі. Зусім правільна, але гэта таму, што мы ня ўмеем працаваць. Калі паглядзець на нашы мэліорацыйныя таварыствы, у прыватнасьці, у нас, на Гомельшчыне, дык у параўнаньні з 21 годам, яны вырасьлі амаль на 100 проц. Паглядзім, як у нас эксплёатуюцца сенажаці, прычым я дакрануся таксама нашае Гомельшчыны. У Гомельшчыне ёсьць вялікія кавалкі сенажаці ў лясьніцтве. Як яны эксплёатуюцца? Яны эксплёатуюцца толькі раз у год, Ці можна на гэтай сенажаці, эксплёатаванай толькі раз у год, правесьці мэліорацыю? Ніяк нельга. Сэсія ЦВК сёньня павінна выказацца за тое, каб здаваць гэтыя сенажаці ў эксплёатацыю на больш доўгі час, з такім разрахункам, каб на эксплёатаванай сенажаці праводзіць мэліорацыю.

Меў рацыю т. Тамашэўскі, калі гаварыў, што трактары ня пойдуць, таму што на сенажаці ні ў якім разе на кані не праедзеш. Ясна, што тут пры здачы сялянству сенажаці неабходна абавязваць сялянства, каб праводзіць мэліорацыю.

У кодэксе гаворыцца, што сяляне, якія праводзяць мэліорацыю сваіх зямель, павінны самі праводзіць каналы. Я сам асабіста зьвярнуўся ў Гомельскую Зямельную Ўправу, каб узяць адзін вучастак зямлі для мэліорацыі, прычым я сам абавязаўся на тэй тэрыторыі, якую бяру, пракапаць канаву. Але перш, чым пракапаць канаву, трэба зрабіць мост, каб вада магла зьбягаць. Калі мы, сяляне, паглядзелі, ці маем мы магчымасьць правесьці яшчэ тры вярсты каналу на чужой тэрыторыі,

дык мы ўбачылі, што сяляне гэтага зрабіць ня могуць. Тут дзяржава не капае, а сялянства таксама ня можа гэтага зрабіць і, такім чынам, гэтыя сенажаці ўсё больш і больш пагаршаюцца і даходзяць да таго, што даюць толькі 15 пуд. з дзесяціны.

З сенажацямі таксама становішча кепскае. Мы ўвесь час гэтыя сенажаці эксплёатуем, а жаднае працы на іх не пакладаем. Селянін скосіць дзесяціну, зьбярэ сена—і ўсё, а гэтая сенажаць усё больш ды больш прыходзіць у нягоднасьць. Неабходна і тут здаваць на больш доўгія тэрміны і праводзіць мэліорацыю.

Цяпер аб саўхозах. Саўхозы павінны быць культурнымі рассаднікамі ў вёсцы, і таму яны павінны першыя праводзіць мэліорацыйныя працы. А вось, напрыклад, у нас ёсьць саўхоз з 80 дзес. сенажаці, а гэта сенажаць дае ўсяго 30 пудоў сена. Зразумела, гэта ўжо ня культурны саўхоз. У далейшым нам трэба, каб саўхозы былі больш культурныя, паказальныя, а таму нам ня трэба гнацца за колькасьцю, але за якасьцю. Ня трэба нам 1.000 або 2.000 дзесяцін трымаць пад саўхозам, лепш 50 дзесяцін, але паставіць гаспадарку так, каб кожны селянін зацікавіўся на практыцы. Да селяніна трэба ня толькі шляхам агітацыі падыходзіць, але і на практыцы паказваць яму, што і як трэба рабіць. Вось у нас ёсьць на вёсцы культурнікі, якія вядуць сваю гаспадарку лепшым спосабам, а суседнія сяляне бачаць гэтую карысьць і таксама пачынаюць пераходзіць на больш культурныя спосабы. У прыватнасьці, наша моладзь, якая пабывала ў Чырвонай арміі, паглядзела, як робіцца ў іншых мясцох, цяпер уздымае сваю гаспадарку.

Цяпер аб тарфяных распрацоўках. Мы ведаем, што пры такіх парубках лесу, якія ёсьць да гэтага часу, лясоў у нас хопіць ня больш, як на 50 год. Утой-жа час мы маем вялікія тарфяныя багацьці. Таму зямельныя органы павінны штырхаць сялян на тое, каб распрацоўваць торф. Як толькі зямельны орган атрымоўвае заяву ад сялян, што яны хочуць распрацоўваць торф, дык ён павінен зараз-жа пасылаць туды тэхніка, абсьледваць і навучыць селяніна.

Цяпер аб лясных палепшаньнях. Вось у нас, у Гомельшчыне, у маёй воласьці было такое здарэньне. Абвяшчае лясьнічы, што трэбаісьці рабіць падчыстку лесу, і за гальлё да 2-х вяршкоў платы браць ня будуць, а звыш 2-х вяршкоў—гніль—бяруць тры рублі. Сялянства пашло. Што-ж вышла? Сялянства назапасіла апал, праз два месяцы пашло забіраць, а з яго ўжо тады патрабавалі 10 руб. Ці-ж гэта правільна? Лясьніцтва павінна было сказаць, каб не ашукваць сялянства, а то сялянства вінаваціць уладу ў гэтым.

Цяпер, тут плакалі аб тым, што хутаром не дапамагаюць. Мы самі ўпэўніліся на практыцы, што калі выселак вялікі, прыкладам, у нас выселак у 45 двароў, дык гэта тая-ж вобшчына, толькі з крыху больш шырокай паласою, і ніякіх культурных палепшаньняў там праводзіць нельга; калі-ж выселак невялікі—у 5 або 6 двароў,—дык там можна завесьці канюшыну, травасеяньне і г. д. Вялікі-ж выселак—гэта тая-ж вобшчына.

(Пасяджэньне зачыняецца).

